

Рамонт нязгоды→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Белліцэй запрашае→8

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 17 (2972) Год LVIII | Беласток, 28 красавіка 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Ён як магніт прыцягаў людзей

— Значэнне Георгія Валкавыцкага для Літаратурнага аб'яднання „Белавежа" такое, як для біялагічнай экзістэнцыі чалавека маюць вада ці паветра. Яны існуюць у невідочным выглядзе, але без іх немагчыма існаваць. Заслуга Валкавыцкага ў тым, што ён удыхнуў творчы дух у нашую патэнцыяльную творчасць, ажывіў косную матэрыю. І раптам усё пачало расці, расцвітаць, на нашай нацыянальнай глебе паявіліся розныя кветкі... — кажа прафесар Ян Чыквін, старшыня Літаб'яднання „Белавежа".

Правесці ў апошні шлях стваральніка і шматгадовага рэдактара „Нівы", арганізатара літаратурнага беларускага руху ў Польшчы, шматгадовага дзеяча БГКТ, прыехала група сяброў і духовых спадкаемцаў. Згодна з воляй пакойнага, яго пахавалі ў роднай Белавежы, на экуменічных могілках пад старымі дубамі, а ўрачыстае пахаванне адбылося 10 красавіка г.г. Боль і цярпенне сям'і ў нейкай ступені гаілі натхнёныя прамовы гасцей, светлыя словы настаяцеля а. Сяргея Корха, прыгожы хор пад кірункам а. Уладзіміра Пятроўскага.



У такім жа ўзнёслым, перапоўненым удзячнасцю і рэфлексіяй настроі выказваліся нашыя суразмоўцы. Сярод іх быў прафесар Аляксандр Баршчэўскі, любімы паэт пакойнага, які, нягледзячы на свой сталы ўзрост, прыехаў на пахаванне з Варшавы.

— Ён для мяне быў, ёсць і будзе блізкім чалавекам, — кажа Аляксандр Баршчэўскі. — У мяне такія пачуцці, быццам я развітаўся са сваім старэйшым братам. Валкавыцкі сам пісаў цікавыя вершы і прозу, аднак ён ніколі не зайздросціў, калі хто напісаў добры верш, наадварот, ён быў задаволены. А штосьць такога вельмі рэдка бывае сярод паэтаў. Найчасцей, калі нехта піша вершы, ён хоча прыніжыць іншых паэтаў, даказаць, што яны мала вартыя. Валкавыцкі ніколі такога чагосьць не сказаў. Ён быў, ёсць і будзе арганічнай часткай беларускага руху ў Польшчы. Вельмі шкада, што сёння з ім развітваемся. Але ён назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

У дарозе майму субяседніку прыгадаўся каларытны ўспамін з 1959 года.

— Памятаю як ён выдаў першы зборнік беларускіх паэтаў „Рунь" і мы правялі вялікі сход у вёсцы Кленікі. У старой школе. Набілася столькі людзей, што гаслі газавыя лямпы, тады не было яшчэ электрычнасці. Там не было сцэны, то яны, каб зрабіць нам падмостак для выступленняў, знялі дзверы з клуні, і павесілі плакат з такімі словамі: „Для паэтаў з «Руні» знялі дзверы з клуні". Георгій Валкавыцкі заахвоціў мяне заняцца такой справай як пісанне вершаў. Цягам многіх гадоў сотні разоў сустракаліся мы, стваралі „Ніву", дзейнічалі ў Галоўным праўленні БГКТ. Гэта была місія. Мы хацелі, каб беларускасць захавалася ў сэрцах нашчадкаў, — падводзіць свае ўспаміны мой субяседнік, — а паэзія гэта ж найпрыгажэйшы ўзлёт чалавечай душы.

* * *

— Георгій Валкавыцкі назваў мяне місійным паэтам, — успамінае Віктар Швед, 88-гадовы патрыярх беларускай паэзіі. — Я абавязаны Валкавыцкаму найбольш. Тое, што я стаў беларускім паэтам, гэта яго заслуга. І „Ніва". Ён цікавіўся, каб згуртаваць вакол „Нівы" як найбольш творчых людзей і каб яны працавалі ў рэдакцыі. У пачатку 1957 года ён запрасіў мяне працаваць на штаце ў рэдакцыі, і каб не прызначылі мяне ў 1958 годзе сакратаром ГП БГКТ, то я пэўна працаваў бы да пенсіі ў „Ніве". Я пайшоў працаваць у БГКТ, аднак не парваў кантактаў з тыднёвікам і супрацоўнічаю з ім па сённяшні дзень. Што найбольш цаніў я ў галоўнага рэдактара? Тое, што не было дыстанцыі, працавалі мы як блізкія сябры. Калі я прыносіў новыя вершы, Валкавыцкі цешыўся, гаварыў, што яны на ўзроўні, няма чаго тут правіць.

Віктар Швед з настальгіяй успамінае як у 1957 годзе быў дэлегатам ад беларускай нацыянальнасці на Маскоўскі фестываль моладзі і студэнтаў.

— Юрка аформіў мне акрэдытацыю і зрабіў мяне карэспандэнтам „Нівы". Дзякуючы гэтаму я меў у Маскве доступ да тэлефона, званіў у назначы час у рэдакцыю, каб прачытаць свае ньюсы і рэпартажы, якія на месцы, па тэлефоне, спісваў Віктар Рудчык. Памятаю, што блакаваў я тэлефон гадзінамі і гэта ў вачах чакаючых у чарзе значыла адно — яго рэдакцыя важная.

Віктар Швед, як місійны паэт, разумеў, што іх пакаленню трэба збудаваць беларускі літаратурны рух ад падмуркаў. Бо ў 1950-я гады, калі ўсё пачыналі, не было кантактаў і падтрымкі з боку Беларусі. Усё стваралі сваімі сіламі, ад асноў. Пасля гэта змянілася. Пісьменнікі, якія прыязджалі з Беларусі, кантактавалі з „белавежцамі", натхнялі прыкладам, дзяліліся вопытам. Аж дзіў, што столькі змаглі зрабіць разам з „Нівай" .

— Каб не было „Нівы" я пэўна пісаў бы па-польску, — думае ўголас Віктар Швед. — Да 1956 года не было магчымасці надрукаваць верш па-беларуску. А гэта я хацеў рабіць, бо беларускія вершы пачаў пісаць ужо ў 1939 годзе, калі прыйшлі саветы. Так, Валкавыцкаму я абавязаны найбольш.

* * *

— Смерць чалавека гэта факт, які не настройвае да вялікай радасці, — кажа прафесар Ян Чыквін, — але тут адчуванні такія дваістыя. Значыць, ёсць пэўная чалавечая ўнутраная радасць, якая не праяўляецца ва ўсмешцы. Мы сёння развіталіся з чалавекам, які да канца быў светлым чалавекам. Мала каму дадзена паміраць дома, у абдымках жонкі і дачкі. А гэта значыць, што мы мала калі ўмеем прачытаць пэўныя сігналы, якія гавораць нам пра тое, што ён сапраўды быў вельмі светлым, добрым чалавекам. Яму быў дадзены доўгі час жыцця і гэта была яму ўзнагарода за правільна пракладзены жыццёвы шлях. Заўважце, што гэты чалавек ніколі не пакрыўдзіў, а ён жа браў на сябе вельмі далікатную справу. Менавіта даваць прыклад сваімі словамі, учынкамі, дзеяннем, усім сваім жыццём. Мы сёння яшчэ не ўяўляем якога чалавека мы пахавалі. І вось гэтая дваістасць: мы перадаем цела зямлі, а зробленае, напісанае, сказанае, застаецца. Рассыпанае Георгіем Валкавыцкім зерне дало прыгожы ўраджай. Гэта Валодзя Гайдук, Алесь Барскі, Віктар Швед, Дзмітры Шатыловіч, Міхась Шаховіч, Мікалай Гайдук і ўсе апошнія аўтары. Мы ўсе прызнавалі яго аўтарытэт, і гэта цудоўна. І вось тая дваістасць — цела перададзенае зямлі, а дух яго пераўтвораны ў творчую энергію, памкненні. Мы, пераемнікі, павінны гэта ўзбагачаць.

Без Валкавыцкага напэўна не было б „Белавежы". Мы маглі б існаваць як нейкія эфемерыды, групоўкі. Каб стварыць літаратурны рух, патрэбны чалавек, які пакіруе. Валкавыцкі, маючы літаратурны талент, нікога не прыніжыў, наадварот, ён даваў вялікі шанц часта мала даравітым людзям.

Чаму літаратура такая важная для жыцця народаў, нацыянальных меншасцей? Тут ідзе пра выказванне свабоды, якую праяўляе ў меншай або большай ступені ў сваёй творчасці кожны аўтар. Валкавыцкі быў магнітам, ён прыцягаў людзей. Такім чынам і я скарыстаў. Я быў у пачатковай школе, і ўжо пачынаў пісаць вершы. Але я саромеўся, што пішу вершы і падпісваў свае вершы такімі замысловатымі псеўданімамі. А Валкавыцкі па гэтых псеўданімах, па зваротным адрасе, знайшоў мяне, падказаў каб не хавацца за псеўданімамі, а калі ўжо, дык параіў, каб падпісваць свае творы „Дубіцкі" (бо я родам з Дубіч-Царкоўных). Я не пісаў вершаў у духу часу: пра Леніна, Сталіна, пяцігодкі. Мае вершы былі пра дуб, вяз, бярозу, пра ўнутраныя перажыванні — і ён гэта друкаваў.

* * *

— Валкавыцкага ўспамінаю як цікавага суразмоўцу, — кажа прафесар Яўген Мірановіч, былы рэдактар „Нівы". — Мы сядалі і гаварылі аб усім гадзіну, дзве. Ён глядзеў на рэчаіснасць ПНР з двух бакоў. Як журналіст і як прадстаўнік улад, бо працаваў у камісіях ад прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей. Ён расказваў менавіта кулісы тадышняй палітыкі. Як даследчык нацыянальных меншасцей я не знаходзіў гэтых інфармацый у афіцыйных дакументах. Шкада, што ён не пакінуў шчырых успамінаў, што ягоныя „Віры" такія закадаваныя. Без нашых размоў змест гэтай кніжкі не быў бы для мяне да канца зразумелым. Іншая справа, ён заўсёды быў адкрытым на людзей чалавекам, любіў палеміку. Для мяне гэта быў сведка гісторыі, чалавек-дакумент. Як стваральнік і шматгадовы рэдактар „Нівы" не ацэньваў маёй працы. Не гаварыў, што раблю нешта добра ці дрэнна. Быў тактоўным чалавекам. Разумеў, што кожны чалавек сам павінен выпрацоўваць свой стыль і адказваць за свае словы.

Натхнёныя, добрыя словы выказаў над магілай цяперашні галоўны рэдактар „Нівы" Яўген Вапа. Месяц да смерці, спецыяльна пад 90-годдзе, ён узяў інтэрв'ю з першым рэдактарам. Іх апошняя размова, ужо з сённяшняй перспектывы, успрымаецца як запавет маладым. Там пра нашу слабасць і паразу, якую хаваем за каляровым фасадам гульбішчаў, гублючы жывое паэтычнае слова.

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**





# Мы называем гэта...

Мы называем гэта „Беларусь", яны называюць „клочок земли". Мы спяваем „Я нарадзіўся тут", яны — „Широка страна моя родная". Мы называем гэта „паўстанне Кастуся Каліноўскага", яны — „польский мятеж". Мы кажам „Мураўёўвешальнік", яны — „талантливый администратор". Мы называем гэта „бальшавіцкі тэрор", яны — „это наша история". Мы называем гэта „этнацыд", яны — „перегибы на местах". Мы называем гэта „народны мемарыял у Курапатах", яны — „Бульбашь холл". Мы кажам „страшная трагедыя Другой сусветнай вайны", яны кажуць „великая победа советского народа в Великой отечественной войне". Мы кажам „агульнаеўрапейская гісторыя", яны „линия Сталина". Мы называем гэта „права на памяць", яны — „несанкционированный митинг". Мы кажам „кніжкі па гісторыі", яны кажуць — „экстремистские издания". Мы ўсклікваем „Жыве Беларусь!", яны кажуць — „размахивал руками, ругался матом и выкрикивал антиправительственные лозунги". Мы называем гэта „наш бел-чырвона-белы сцяг", яны — „незарегистрированная символика". Мы называем гэта „дыктатура", яны кажуць „За стабильную Беларусь!".

Мы кажам „выбарны парламент", яны кажуць „каждая кухарка должна управлять государством". Мы кажам „недзяржаўныя грамадскія арганізацыі", яны кажуць „пятая колонна". Мы кажам „незалежная прэса", яны кажуць „нячэсныя журналісты". Мы пішам „у нас значныя праблемы", яны кажуць „дискредитация Республики Беларусь". Мы кажам „Беларусь у Еўропу", яны кажуць „мы за цивилизованным миром наш народ не поведём".

Мы называем гэта „чарнобыльская трагедыя", яны — „мирный атом". Мы кажам „Астравецкая атамная станцыя — гэта злачынства!", яны кажуць „создание новых рабочих мест — это хорошо". Мы кажам „роўныя магчымасці на выбарах", яны — „избирательные комиссии сформированы из опытных людей". Мы кажам: „фальсіфікацыя выбараў", яны кажуць „наблюдатели от СНГ нарушений не зафиксировали". Мы кажам „мясцовае самакіраванне", яны — „вертикаль и генерал-губернаторы". Мы кажам „самабытнасць мястэчак", яны кажуць „развитие агрогородков". Мы кажам „гаспадарчы крызіс", яны — „скачок тигра". Мы кажам „развіваць малое і сярэдняе прадпрымальніцтва", яны — „давить, как вшивых блох". Мы кажам „новае прыгоннае права", яны — „контрактная система". Мы кажам „мадэрнізацыя эканомікі", яны — „пятилетку в четыре года". Мы кажам „шматвектарнасць развіцця", яны — „мы расшырым плашчадя, увеличым машчнастя". Мы кажам „Балтыйска-Чарнаморскі звяз", яны — „А у нас российский газ і Каракас". Мы кажам „нацыянальная ідэя", яны кажуць „чарка і шкварка".

Мы кажам „Віфлеемская зорка", яны кажуць — „звёздочка октябрят", мы кажам „Хрыстос Уваскрос!", яны адказваюць — „Нам уже доложили". Мы кажам „шматканфесійная краіна", яны кажуць „государство и церковь едины". Мы кажам: „Не — смяротнаму пакаранню!", яны кажуць „террористический акт раскрыт рекордно быстро".

Мы кажам „бязвізавы ўезд", яны — „единое таможенное пространство". Мы кажам „адкрытасць межаў", яны кажуць „редкая птица долетит до середины Буга". Мы кажам „матчына мова", яны — „великий и могучий". Мы называем гэта „знішчэнне беларускай мовы", яны — „равноправие двух государственных языков". Мы кажам „ахова помнікаў архітэктуры", яны кажуць „упорядочение территории". Мы кажам „старая брукаванка", яны — „новая губернаторская плитка". Мы кажам „талака", яны „ленинский субботник". Мы кажам „давайце паставім хоць адзін помнік Льву Сапегу", яны — „У нас есть много памятников Ленину". Мы кажам „беларускі тэатр", яны кажуць „Славянский базар". Мы кажам „п'яны мужык", яны — „неустановленное лицо предположительно мужского пола, вероятно находящееся в состоянии алкогольного опьянения"...

У нас вельмі розныя мовы, светагляды і разуменні. І як нам далей жыць у такой краіне?..

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Сок з грамадзяніна

Я даўно не пісаў пра Беларусь. А падзеі ў гэтай краіне гоняць падзеі. У рэспубліканскім суботніку, які адбыўся на мінулым тыдні, прынялі ўдзел 3,6 мільёна чалавек. Плюс Аляксандр Лукашэнка. Кіраўнік дзяржавы ў галёшах і ў бляску рэпарцёрскіх фотаўспышак заліваў бетон. Дзе і для чаго, гэтага інфармагенцтвы не паведамляюць. Таму што чутка пра тое, што прэзідэнт бетанаваў дзіры загніваючай сістэмы, якой ён з'яўляецца аўтарам, неабавязкова заснавана на рэальных прадпасылках. Падобна як паведамленне афіцыйных СМІ, што суботнік прынёс краіне адчувальныя здабыткі. Дарэчы, быў бы гэта неверагодны поспех прапаганды Лукашэнкі, калі б мільёны людзей на самой справе палічылі, што іх непрадуктыўныя намаганні прынеслі нацыянальнай эканоміцы шматмільённыя ашчаднасці, прытым разлічваныя ў доларах.

У самім Мінску да грамадскага пачыну, што называецца суботнікам, адначасова далучылася 635 тысяч чалавек. Для параўнання, да будаўніцтва пірамід у час фараонаў бралі на работу не больш за сто тысяч добра аплачваных рабочых. Нягледзячы на гэтую статыстыку, штодзённы рост піраміды налічваў не больш аднаго сантыметра. У той жа час на кожны сантыметр рэльна ўзношанай піраміды прыпадаў па меншай меры тыдзень матэрыяльна-тэхнічнай падрыхтоўкі. Так што калі піраміды былі будаваныя на працягу 40 гадоў, чатыры пятых таго часу спатрэбілася для падрыхтоўкі да будаўніцтва, а затым яго далейшага эфектыўнага кіравання. Пачынаючы з назапашання будаўнічых матэрыялаў, з забеспячэння прылад неабходных для працы і кончыўшы на капанні прыбіральняў — усё гэта паглынала вялікую колькасць часу, энергіі і фараонавых грошай. Колькі каштаваў Беларусі суботнік — невядома. Вядома, аднак, што яму папярэднічалі многія месяцы падрыхтоўкі. Сотні, калі не тысячы службовых асоб, якія ўдзельнічаюць у яго рэалізацыі, замест вырашэння паўсядзённых адміністрацыйных праблем дзяржавы, выцiскалі пот адзін з аднаго, каб забяспечыць на дзень суботніка дастатковую колькасць рыдлёвак і венікаў. Для шматмільённай масы ўдзельнікаў суботніка трэба было прызначыць месца працы, сарганізаваць ім транспарт і іх патэнцыйны дурны настрой падсаладзіць мёдам энтузіязму прапаганды. Так што можна сказаць, што будаўніцтва пірамід пры суботніку гэта малы «пікусь» пры Піку Камунізма. Толькі піраміды стаяць да сёння, і, верагодна, многім турыстам нават штурхнуць скуру. А што застанецца па суботніку? Нічога для грамадства, але шмат для ўлады. Масавы суботнік быў дэманстрацыяй яе сілы. Ніхто добраахвотна не махнуў бы пальцам, калі б раней улада не штурхнула яго ў азадак. Неабавязкова фізічна. Так вось жахлівы грамадскі суботнік вымушаны ўладай, падобна як будаўніцтва пірамід, меў прадэманстраваць сілу і звышчасавую трываласць. І прадэманстраваў. 3,6 мільёна здратаваных органамі дзяржаўнай улады не прамармыталі нават слова нецярпення.

Іншай, не менш важнай падзеяй у Беларусі быў старт агульнанацыянальнага збору бярозавага соку. На прадвесні гэта з'яўляецца стратэгічным рэсурсам для беларускай эканомікі, які цалкам забяспечвае ўнутраныя патрэбнасці краіны. Бярозавы сок хутка ферментуе і неўзабаве, як штогод, народ паддасца масаваму п'янству. Дзяржава, аднак, трымае кантроль не толькі над здабываннем бярозавага соку, але і над грамадзянамі. Ужо створаны законапраект, які асоб злоўжываючых алкаголем абавязвае да прымусовага лячэння ад алкагалізму за свой кошт. Застаецца загадкай, колькі на гэтым зэканоміць дзяржава. Аднак, ясна бачна, па яе заканадаўчых задумах, што штосьці заашчадзіць і схоча зэканоміць яшчэ больш. Гэта пацвярджаецца ўказам прэзідэнта, патрабуючым у незаконна арыштаваных сяброў апазіцыі пакрыць кошт утрымання іх у арышце. Указ, больш за тое, распаўсюджваецца на ўсіх грамадзян. Без сумневу, арыштоўваючы кожнага другога жыхара Беларусі, дзяржава, мабыць, ліквідуе магутны дэфіцыт бюджэту. Імкненне да самадастатковасці таксама знаходзіць сваё адлюстраванне ў ідэі сарганізавання абавязковых лагераў у час канікул для моладзі. Яна мела б аказваць падтрымку сваёй бясплатнай працай недаінвеставаным і дрэнна кіраваным калгасам. Тут я павінен прызнаць, што беларуская дзяржава не дурная. Ды, Госпадзе, каму патрэбная такая дзяржава?

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# Парад з чымсьці там яшчэ



Падляшскія самаўрадавыя ўлады (у прыватнасці, падляшскі віцэ-маршалак Яцак Пярунак, той, што скарачаў апошнія датацыі на культуру) прыйшлі да высновы, што 26 красавіка — час у рэгіёне, каб пачаць культурны сезон. З гэтай нагоды рушыць праз сталіцу Падляшша парад, зусім не роўнасці — але такі, на чале якога стануць маршалак, члены ваяводскай управы, ваяводскія радныя, войты і бурмістры, магчыма, нават некаторыя прадстаўнікі цэнтральных улад. У цэлым мае прамаршыраваць пяць калон. Будуць маршыраваць таксама сілавыя службы, матацыклісты, рэканструктыўныя групы, фальклорныя калектывы і г.д. У агульнай складанасці больш за 2,5 тысячы чалавек з 65 гмін і 14 паветаў. Будуць ісці — не хавае віцэ-маршалак Пярунак — у пятніцу, паралізуючы і так раскапаны горад. Маршыруючыя адправяцца а 17 гадзіне ад Падляшскай оперы і філармоніі, пройдуць па вуліцах Кракаўскай і Ліпавай да Рынку Касцюшкі. На сцэне перад ратушшу пройдзе гала-канцэрт з удзелам фальклорных калектываў (без беларускіх і літоўскіх, хаця будуць украінскі і татарскі). Раней будзе паказаны акт стварэння Падляшскага ваяводства і прызначэння на пасаду ваяводы — Івана Сапегі.

Парад мае быць адным з самых яркіх (у мысленні яе задумшчыка, то-бок віцэ-маршалка Пярунка) атракцыёнаў святкавання 500-годдзя ваяводства. Падчас прэс-канферэнцыі да пачатку мерапрыемства прадбачыў ён і іншыя: Канвенцыю польскіх маршалкаў ваяводстваў, Кангрэс самаўрада Падляшскага ваяводства, уручэнне сёлетніх узнагарод «Падляшскі брэнд года». Пры нагодзе сказаў, што ў Падляшскай маршалкоўскай управе чыноўнікі ўсё яшчэ сумняваюцца ў тым, ці Сапега быў Янам ці Іванам.

Івенцік-парад паглыне каля 350-400 тыс. зл. (фінансуецца сумесна з ЕС). Пра такі вялікі дыяпазон ад агульнай колькасці сумы паведаміў намеснік і патлумачыў журналістам:

— Наш парад арганізаваны першы раз, але я спадзяюся, што не апошні, па мадэлі многіх краін у Еўропе і за межамі Еўропы. Мы хочам паказаць багацце нашага мастацкага жыцця. У іншых гарадах таксама ёсць парады. Будзе сведчыць ён аб нашай культуры.

І паколькі Падляшша з'яўляецца шматнацыянальным, то мае быць шматнацыянальна. Цытуецца за віцэ-маршалкам:

— Прамаршыруюць літоўскія калектывы, украінскія, татарскія і нешта яшчэ («coś tam jeszcze»).

«Штосьць там яшчэ» гэта на 140 розных груп тры калектывы, якія маюць фальклорны беларускі рэпертуар з Мельніка, дзве беларускія каманды з Гарадка, адзін з Нараўкі, па адным з Заблудава і з Белавежы і адзін з Гайнаўкі. У агульнай колькасці (калі я распазнаў) дзевяць. Гэты выбар рабіў галоўны харэограф ансамбля «Курпе Зялёнэ» Веслаў Дамброўскі, які дзейнічае пры Ваяводскім асяродку анімацыі культуры (ВААК адказвае за арганізацыю святкавання 500-годдзя). Цікава, як мне запэўніваў Ян Сычэўскі, старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства, ніхто не паведаміў яго аб удзеле беларускіх гуртоў у парадзе і гала-канцэрце.

Адзін з маіх калег, калі пачуў аб парадзе і ўвогуле аб праграме 500-гадовага юбілею ваяводства, саркастычна заўважыў:

— Калісь на 1 Мая народ маршыраваў перад уладамі, у цяперашні час улада хоча перад народам. Гэта такія вакханаліі нашай самаўрадавай улады, арганізаваныя ў асноўным для сябе.

Мне цяжка не пагадзіцца з гэтым меркаваннем, улічваючы тлумачэнні віцэ-маршалка Пярунка, які адказаў на пытанні журналістаў, чаму парад праходзіць у працоўны дзень:

— Таму што мы хочам, каб паглядзелі яго маршалкі, якія прымаюць удзел у Канвенцыі маршалкаў.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Рамонт нязгоды

Ужо чацвёрты год працягваецца рамонт беластоцкай гістарычнай камяніцы (пабудаванай у пачатку мінулага стагоддзя), па вул. Варшаўскай 11, у якой змяшчаецца сядзіба Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Неабходныя для яго завяршэння 140 тысяч злотых. Датацыі ў гэтым годзе аднак не прызначыла Гарадская ўправа (ГУ) у Беластоку, што робіць немагчымым падаць заяву на атрыманне грантаў на гэтую мэту ў Маршалкоўскую ўправу Падляшскага ваяводства (МУПВ). Таму завяршэнне рамонту знаходзіцца пад пытаннем. На думку старшыні БГКТ Яна Сычэўскага, рашэнне кіраўнікоў горада аб адмове ў прадастаўленні датацыі на рамонт з'яўляецца часткай «дзіўнай практыкі самакіравання ў адносінах да беларускай культуры і БГКТ у якасці яе арганізатара» і адной з праяў маргіналізацыі патрэб беларусаў Беластока.

На сённяшні дзень звыш 300 тысяч злотых на рамонт сядзібы БГКТ прыйшлі з Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, МУПВ і ГУ. У рамках працягу прадбачаны рамонт: трох офісных памяшканняў, раздзявальні, лесвіцы і аднаўленне міжпакаёвых дзвярэй. Знешняя лесвіца з двара мела б быць абліцавана натуральным каменем. Планавана замена чатырох акон у шчыце, унутраных аканіц, замена электраправодкі ў раздзявальні, і кансервацыя крокваў. Неабходныя для гэтай мэты ў агульнай складанасці 140 тысяч злотых.



## Спрыяюць

9 красавіка падляшская ўправа прыняла рашэнне задаволіць просьбу БГКТ станоўча на датацыю для далейшай рэканструкцыі. Таварыства хадайнічала за 40 тысяч злотых. Управа рэкамендавала ваяводскім радным, таму што яны прымаюць у гэтым выпадку канчатковае рашэнне, датацыю ў 21 тысячу злотых. Але — як звычайна і ў адпаведнасці з законам — БГКТ (і іншыя, так званыя суб'екты, якія стараюцца за сродкі для гэтай мэты), каб канчаткова атрымаць грошы, павінна прадэманстраваць, што яно мае ўласны ўклад.

У такім выпадку ён павінен складаць 50 працэнтаў ад сумы патрабаванай бенефіцыентам.

— Мы спрыяем, калі ўклад абвешчаны, але рэальна яшчэ яго няма. Калі яго не будзе ў канчатковым рахунку, хадайнічаючы за датацыю мусяць адмовіцца ад ваяводскай датацыі, — кажа «Ніве» Анатоль Вап, дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны МУПВ.

Калі ваяводская ўправа рэкамендавала радным прызначэнне грошай БГКТ, не было вядома, ці напэўна ўклад будзе, і, такім чынам, датацыя з Маршалкоўскай управы. У гэтым выпадку канчатковае рашэнне прымаюць радныя (гарадскія). Свайго роду гарантыяй была б рэзалюцыя (у рамках датацыі на помнікі ў цэлым) прад'яўленая гарадскім радным, адобраная прэзідэнтам Тадэвушам Трускаляскім. У магістрат БГКТ падало адпаведную заяву на 100 тысяч злотых. Аднак гэтая прапанова не была адобрана прэзідэнтам горада. 15 красавіка (г.зн. пасля рашэння падляшскай управы) Ян Сычэўскі падаў на рукі прэзідэнта Трускаляскага ліст, у якім гаворыцца, што без мунiцыпальнай датацыі датацыя МУПВ будзе немагчымая; на гэты ўласны ўклад сродкаў БГКТ не мае. У размове з «Нівай» старшыня Сычэўскі адзначае:

— На набыццё ўкладу з іншых крыніц ужо запозна.

## Не хапіла дакументаў?

У лісце прэзідэнту Ян Сычэўскі напісаў: «Беларусы ў Беластоку з'яўляюцца грамадзянамі гэтага горада, гэта людзі, чыя культура і нацыянальная ідэнтычнасць на працягу многіх гадоў спіхваецца на абочыну, гэта падаткаплацельшчыкі, якім не належыцца міласціна, але адчувальная дапамога (...). Калі гэтай культурай грэбуецца і нават трактуецца яе з пагардай, то адважваемся спытаца, якое мае гэта дачыненне да закону аб меншасцях..., да стандартаў прававой дзяржавы, дэмакратычнага кіравання, і, нарэшце, да элементарнай прыстойнасці?».

Ад імя прэзідэнта яго прэс-сакратар Уршуля Міранчук не хацела адносіцца — як сказала — да эмацыйнай часткі ліста. Яна адзначыла, што заява да радных на датацыі для рэканструкцыі гістарычных помнікаў у гэтай размяркоўцы ўключае пяць заяў, а заява БГКТ «не была адхілена, а падлягала разгляду і была ацэнена так, як адпаведна чатырнаццаць іншых апошніх выконваючых фармальныя патрабаванні», у адпаведнасці з крытэрыямі адпаведнага прыкладання да адпаведнай пастановы (тут спадарыня прэс-сакратар пералічыла тыя дакументы). Крытэрыі ацэнкі прапаноў складаліся з васьмі пунктаў, за якія можна было атрымаць да ста ачкоў. Заявы, якія атрымалі 60 ачкоў, не прайшлі на наступны этап ацэнкі:

— Пры ацэнцы камісія асаблівую ўвагу звярнула на якасць падрыхтаваных заяў, завершанасць прыкладзенай тэхнічнай дакументацыі, прымяненне ў ёй вырашэнняў і матэрыялаў у адпаведнасці з прынцыпамі рэстаўрацыі, а таксама на надзейнасць пры падрыхтоўцы каштарысу расходаў і неабходнасць правядзення работ запланаваных заяўнікам.

І далей спадарыня прэс-сакратар спаслалася непасрэдна на рамонтную заяву БГКТ:

— Камісія адзначыла важны факт, што прапанова ўключае ў сябе частку прац, на якія, згодна з законам аб ахове помнікаў, датацыя не можа быць прызначаная, г.зн. такія як электрычныя ўстаноўкі, рамонт трох офісных пакояў, раздзявальні і лесвіцы ды абліцаванне дваровай лесвіцы натуральным каменем. Акрамя таго заяўнік, замест захавання арыгінальных унутраных жалюзі і «лямовак у вокнах», запланаваў абмяняць іх на новыя элементы, якія нязгодныя з прынцыпамі рэстаўрацыі і сведчаць аб адсутнасці клопату ўладальніка аб сапраўднасць помніка. Заяўнік не падаў дакумента аб тым, як выдаліць насякомых з элементаў даху, які забяспечыў бы эфектыўнасць гэтага дзеяння і годнасць расходавання дзяржаўных сродкаў на гэта. У супраўаджальнай дакументацыі не хапала праграмы захавальніцкіх прац на ажыццяўленне рамонту ў стылі мадэрністычнай дзвярной сталяркі.

## Ніжэй ліку

Аднак у лісце прэзідэнту старшыня Сычэўскі звяртае ўвагу, што ў рамках абгрунтавання заяўкі была мікалагічная экспертыза аднаго з даследчыкаў (мікалогія з'яўляецца галіной біялогіі, якая займаецца вывучэннем грыбоў, часта шкодных для чалавека, якія разбураюць будынку БГКТ). Як можна зрабіць выснову, для прэзідэнта Беластока і раней камісіі не мела яна значэння.

Далей Уршуля Міранчук тлумачыць:

— Увагу камісіі таксама звярнуў кошт замены чатырох маленькіх акон на фасадзе франтона, з вызначанай сумай 31 752 злотых, хаця падчас наведвання спадар Ян Сычэўскі паведаміў працаўнікоў Гарадской рады аб замене — па эстэтычных прычынах — знешніх крылаў, што было б несумяшчальным з заявай .

Таму вось заява БГКТ атрымала ў агульнай складанасці толькі 45 балаў. Прэс-сакратар прэзідэнта пры нагодзе сказала:

— Субсідыі з гарадскога бюджэту на помнікі налічваюцца за працу над гістарычнымі будынкамі, незалежна ад таго, каму яны належаць. У 2011 г. БГКТ атрымала грант з гарадскога бюджэту для рэалізацыі супрацьвільготнай ізаляцыі гэтай жа камяніцы ў памеры 150 тысяч злотых.

## Выкідванае Свята

Адмова ў прадастаўленні датацыі прэзідэнта для завяршэння рамонту стала для старшыні Сычэўскага падставай рабіць далёка ідучыя высновы: «Мы не можам знайсці адказу на пытанні: — чаму замест дафінансавання, прэстыжныя беларускія мерапрыемствы, як Свята беларускай культуры, Фестываль Беласток-Гродна, Міжнародная канферэнцыя «Шлях да ўзаемнасці» атрымліваюць жалюгодную міласціну. У 2012 годзе ў агульнай складанасці 15 тысяч злотых. (...). Стаўленне ўлад да беларускай культуры з'яўляецца нязменна адмоўным».

На гэтыя абвінавачанні прэс-сакратар прэзідэнта адказвае цалкам загадкава:

— Мы даем датацыі БГКТ у межах наяўных рэсурсаў.

У той жа час, быццам пры нагодзе, звяртае ўвагу:

— У 2013 г. БГКТ падало таксама заяву на Фестываль песні Беласток-Гродна. Запытаная сума — 12 450 злотых. Гэта прапанова атрымала толькі 60 ачкоў, так што грант не быў прызначаны. БГКТ паведамілі аб неабходнасці павышэння эфектыўнасці прымянення і запаўненне ўсіх рубрык у прапанове, згодна з узорам. Існуе магчымасць паўторна падаць заяву ўжо ў абвешчаным конкурсе прапаноў.

У канцы свайго ліста старшыня БГКТ пытаецца ў прэзідэнта: «Чаму ў дэманстратыўны і пагардлівы спосаб выкідваецца нас са Святам беларускай культуры з парку Плянты на плошчу перад Драматычным тэатрам, а наступным чынам з гэтага пляца? Ці такая прэстыжная падзея, як Фестываль беларускай культуры, не заслугоўвае таго, каб увесці яе ў праграму святкавання Дзён горада Беластока? Пасля шматлікіх размоў на гэтую тэму, у тым ліку з членамі Гарадской рады, я зразумеў, што гэта вынікае ў асноўным з-за нядобрасумленнасці. Каму залежыць на тым, каб прынізіць нас?»

Уршуля Міранчук так ставіцца да гэтых сцвярджэнняў:

— 30 кастрычніка 2012 г. быў пададзены ў Кіраўніцтва муніцыпальнай маёмасці запыт ад БГКТ на атрыманне доступу 23 чэрвеня 2013 г. да часткі нерухомасці ў парку Плянты (ля фантана) на сарганізаванне Свята беларускай культуры. 21 снежня 2012 г., у сувязі з арганізаванымі Беластоцкім цэнтрам культуры XVIII Днямі горада 23 чэрвеня ў тым жа месцы, БГКТ паведамілі пра гэты факт і ў той жа час КММ прапанавала іншыя даступныя месцы, м.інш. Стары парк з пляцам перад Драматычным тэатрам. 28 студзеня 2013 г. была дасягнута дамоўленасць са спадаром Янам Сычэўскім адносна выбару пляца перад Драматычным тэатрам. Пасля атрымання адпаведных меркаванняў будзе заключаны дагавор найму гэтай тэрыторыі.

Ян Сычэўскі:

— Так, але гэта было пасля інтэрвенцыі ў прэзідэнта Трускаляскага консула Рэспублікі Беларусь. Аказалася, аднак, што можна перанесці адтуль менш важную імпрэзу арганізаваную ў рамках Дзён Беластока.

## Непадыходзячае Свята

Уршуля Мірунчук:

— Дні горада Беластока гэта свята Беластока, арганізаванае Беластоцкім цэнтрам культуры з 1996 года, у якасці Імянін гетмана, спасылаючыся на традыцыі ўрбаністыкі і звязаныя з асобай заснавальніка горада — Яна Клеменса Браніцкага. У гэтым годзе ўпершыню фестываль беларускай культуры адбываецца ў той жа час, як штогадовыя дні горада. Традыцыяй гарадской арганізацыі мерапрыемства з'яўляецца канцэрт у парку Плянты. Няўдалае супадзенне дат абодвух мерапрыемстваў стала прычынай таго, што БГКТ былі прапанаваны іншыя цікавыя месцы, у цэнтры Беластока, каб арганізаваць гэтае мерапрыемства. Ніколі раней фестываль беларускай культуры не ўваходзіў у праграму Дзён горада, а гэта асобная падзея са сваім профілем, традыцыяй, аўдыторыяй і брэндам. Варта таксама адзначыць, што старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі не звяртаўся ў БЦК як арганізатара Дзён горада, каб увесці Свята беларускай культуры ў мерапрыемства (арганізатары мерапрыемства, для таго, каб увесці іх у праграму Дзён горада, павінны зрабіць такія запыты).

Спадарыня прэс-сакратар не скрывае:

— Штогод арганізаванае БГКТ мерапрыемства, хоць добра падрыхтаванае, якое мае пэўную групу адрасатаў, не ўпісваецца аднак у прынятую ад трох гадоў формулу Дзён горада.

Калі мы здавалі гэты нумар «Нівы» ў друк у панядзелак (22 красавіка), аб заяўках на датацыі для БГКТ для далейшай рэканструкцыі будынка БГКТ мелі дэбатаваць радныя. У той жа самы дзень: гарадскія і ваяводскія.

## Нарваўская дэмаграфія

Нарваўская гміна займае плошчу ў 24 тысячы гектараў. У ёй 47 вёсак і вёсачак, у тым ліку 39 салэцкіх. Найбольшыя гэта Нарва (пражывае ў ёй 1453 асобы), Трасцянка (212), Ласінка (197), Тыневічы-Вялікія (154), Крывец (135), Макаўка (127), Адрынкі (94), Гарадзіска і Сацы (па 88), Ляхі (78), Агароднікі (75), Ваські (71), Анцуты (70) і Храбустоўка (65). Ва ўсёй гміне пражывае 3849 чалавек. Лік жыхароў рэзка падае — на працягу дзесяці гадоў з 4,5 тысяч на 3849. Дзесяць гадоў таму Трасцянка налічвала 362 асобы, Тыневічы-Вялікія — 263, Ласінка — 262, Крывец — 232, Сацы — 180, Адрынкі — 166 і Макаўка — 165. З таго часу па ліку жыхароў Ласінка абагнала Тыневічы-Вялікія, а Макаўка — Адрынкі і Сацы.

Да найменшых вёсак належаць Пухлы — 27 жыхароў, Падбаравіска — 22, Радзькі і Гарэнды — па 20, Сакі — 19, Цімахі і Іванкі — па 18, Граматнае і Скарышэва — па 11, Брушкоўшчына — 10, Уснаршчына — 9, Пашкоўшчына — 7, Цісы — 4 ды Забалацце, Гайдукоўшчына і Качалы — па 2.

У 2012 годзе ў Нарваўскай гміне нарадзілася 31 дзіця і памерлі 77 чалавек. У 2010 і 2011 гадах памірала прыблізна па сто чалавек штогод.

У мінулым годзе 10 пар атрымалі медалі „За шматгадовае шлюбнае сужыццё"; яны — узнагароды ад прэзідэнта РП.

Найстарэйшай жыхаркай з'яўляецца 100-гадовая Надзея Рээнт. Жыве яна ў дачкі Валянціны ў Нарве. Раней сям'я Рээнтаў жыла ў Старым Ляўкове, па-суседску з пачатковай школай. Дом і гаспадарчыя будынкі апусцела стаяць у Ляўкове; хата прыгожая, абноўленая. У 1951-1958 гадах у найбольш прасторным пакоі гэтага дома адбываліся школьныя ўрокі. Пазней працаваў там медпункт.

## Мая парафіяльная царква

Падвялі пластычны конкурс „Мая парафіяльная царква", арганізаваны Брацтвам праваслаўнай моладзі пры Свята-Троіцкім прыходзе ў Гайнаўцы і метадычным дарадчыкам па справах навучання праваслаўнай рэлігіі д-р Ліліяй Буслоўскай. На конкурс дзеці і моладзь падрыхтвалі 150 прац — малюнкаў, рысункаў і графік.

У катэгорыі „прадшколле" I месца заняў Ігнатка Валкавыцкі, II месца — Габрыеля Кердалевіч (яны з Дзіцячага садка № 5 з Гайнаўкі) ды трэцяе раўнапраўнае месца — Вікторыя Гаўрылюк з ДС № 5 і Магдаліна Гаўрылюк з ДС № 2 у Гайнаўцы.

У катэгорыі „класы I-III пачатковай школы" I месца заваяваў Кшыштаф Амельянюк з ПШ № 3 у Гайнаўцы, II месца — Рафал Вакулюк з ПШ № 2 у Гайнаўцы і III месца — Малгажата Тапалеўская з Комплексу школ у Чыжах.

У катэгорыі „класы IV-VI пачатковай школы" I месца заняла Габрыеля Карбоўская з КШ № 3 у Гайнаўцы, II раўнапраўнае месца — Магдаліна Аўласюк з КШ № 2 у Гайнаўцы і Адам Троц з КШ у Дубічах-Царкоўных ды III раўнапраўнае месца — Патрыцыя Сямяцкая з ПШ у Навым Корніне ды Эмілія Галёнка з КШ № 3 у Гайнаўцы.

У катэгорыі гімназістаў I месца заняла Патрыцыя Бай, II месца — Кінга Анна Пуц і III раўнапраўнае месца — Паўліна Яновіч і Якуб Януцік (усе яны з Гайнаўкі).

У катэгорыі „сярэдняя школа" першынство заваявала Івона Лукашук, II месца — Аляксандра Якімчук ды III раўнапраўнае месца занялі Уршуля Баравік і Марыя Краўчык (яны з Белліцэя ў Гайнаўцы).

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

# Юбілей беларускай філалогіі ў Беластоку

Беларуская філалогія ў Беластоку адсвяткавала сваё 20-годдзе. Ва ўрачыстым спатканні, якое прайшло 12 красавіка, прысутнічалі госці з вышэйшых установаў з Беларусі і Польшчы. Пры гэтай нагодзе таксама былі падведзены вынікі развіцця беларускай філалогіі ў Польшчы.



Заснавальнік беларускай філалогіі праф. Міхал Кандрацюк

Першапачаткова ва Універсітэце ў Беластоку працавала невялікая Лабараторыя беларусістыкі. Яе заснавальнікам быў прафесар Міхал Кандрацюк, які шмат гадоў з'яўляўся яе кіраўніком.

— Я падумаў: калі мы знаходзімся тут побач з беларускай мяжой і мы самі — беларусы, то апрача рускай мы павінны таксама ведаць беларускую мову, культуру і літаратуру.

Аднак ні блізкасць Беластока з Беларуссю, ні яго беларуска-польская гісторыя ці факт, што тут пражывае найбольш прадстаўнікоў беларускай грамадскасці ў Польшчы, не дапамагалі пры заснаванні беларускай філалогіі ў нашым горадзе. Першым універсітэтам, на якім можна было вывучыць беларускую мову, быў Варшаўскі ўніверсітэт. У след за ім пайшоў Люблінскі каталіцкі ўніверсітэт, пазней — Вармінска-Мазурскі. У 1992 годзе і Беластоцкі ўніверсітэт рушыў з новай адукацыйнай прапановай.

— Хаця аб заснаванні беларускай філалогіі ў Беластоку гаварылі самыя аўтарытэтныя людзі, то мясцовая інтэлігенцыя, асобы, якія дрэнна ставіліся да беларускасці, стараліся як найбольш зашкодзіць, а не дапамагчы, — адзначыў праф. Міхал Кандрацюк. — Таму ўзніклі розныя цяжкасці, якія перашкаджалі адкрыць раней гэтую спецыяльнасць у Беластоку.

Напачатку беларускую мову вывучалі студэнты расейскай філалогіі на спецыяльнасці русістыка з беларусістыкай. Калі ў 1999 годзе Установа беларусістыкі атрымала статус Кафедры беларускай філалогіі, ужо ад 2000 года рушыла першая рэкрутацыя на самастойны напрамак беларуская філалогія. Да сёння гэтую спецыяльнасць закончыла амаль дзвесце магістраў і бакалаўраў.



Выступаюць вучні Непублічнай пачатковай школы імя свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока

— Нашы выпускнікі працуюць у самых розных сферах, — падкрэслівае прафесар Галіна Тварановіч. — Зразумела, гэта настаўнікі беларускай мовы, працаўнікі СМІ. Некаторыя працуюць на мяжы пагранічнікамі і мытнікамі.

Між іншым выпускнікі беларускай філалогіі прымалі ўдзел ва ўрачыстым святкаванні юбілею. Прыбылі таксама прафесары з Беларусі і Польшчы, прадстаўнікі беларускіх арганізацый Падляшша ды беларускага пасольства ў Польшчы. Пасля ўрачыстага прывітання сабраных загадчыцай Кафедры беларускай філалогіі ў Беластоку прафесар Галінай Тварановіч, пачалася канферэнцыйная частка святкавання. З лекцыяй выступіў пасол Беларусі ў Польшчы Віктар Гайсёнак. Звярнуў ён увагу на вялікую ролю, якую беларуская філалогія выконвае ў паляпшанні польска-беларускіх сувадносін.

Цяпер на Кафедры беларускай філалогіі ў Беластоку працуюць дзевяць навуковых супрацоўнікоў.

— Маем трох дактароў, якія завяршылі вучобу на беларускай філалогіі ў Беластоку, — падкрэслівае прафесар Галіна Тварановіч. — У нас выйшла першая ў Польшчы хрэстаматыя па старабеларускай літаратуры. Былі падрыхтаваны дапаможнікі па беларускай мове. Таксама пабачыла свет кніга, прысвечаная прозе Літаб'яднання „Белавежа". Выдаецца штогоднік „Białorutenistyka Białostocka", у якім друкуюцца нашыя супрацоўнікі, а таксама навукоўцы з розных асяродкаў як з Польшчы, так і Беларусі. Думаю, што маем чым ганарыцца.

Урачыстаць упрыгожылі артыстычнай праграмай вучні з Непублічнай пачатковай школы імя свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, а таксама хор „Знічка" з Гайнаўскага белліцэя. У час выканання імі гімна „Магутны Божа" ўсе прысутныя з павагай годнай гэтай песні падняліся з месц, не вылучаючы прадстаўнікоў беларускага пасольства ў Польшчы. Аднак моладзь, якая змагла заразіць сваім патрыятызмам нават беларускія ўлады, сама не мае ў планах навукі на беларускай філалогіі.

— Калісь яшчэ ў гімназіі я сур'ёзна думала, каб прыйсці сюды пасля завяршэння ліцэя. Тады я была лаўрэаткай дэкламатарскага конкурсу і нейк мяне гэта заахвочвала, каб яшчэ лепш пазнаць беларускую мову, — сказала вучаніца Гайнаўскага белліцэя Дамініка Юшкевіч. — Цяпер мае планы крыху памяняліся і не ведаю ці буду сюды падаваць паперы.

Ян Карчэўскі, настаўнік беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі, пагаджаецца з тым, што нямнога вучняў, нават ніхто з ліцэістаў, не думае аб вучобе на белфілфаку:

— Гэта сама моладзь вырашае. Яны пэўна кіруюцца тым, аб чым і сёння тут гаварылася: перспектывамі працы пасля завяршэння навукі. Як вядома, цяпер настаўніку беларускай мовы вельмі цяжка знайсці працу ў школе.

Паводле слоў Яна Карчэўскага, навучанне мовы з нуля дадаткова знеахвочвае выпускнікоў белліцэяў да выбару гэтага накірунку.

Па словах прафесара Міхала Кандрацюка, даўней моладзь, якая вывучала беларускую мову ў школах, найчасцей паступала на беларускую філалогію:

— Вучні белліцэяў лічаць, што ведаюць ужо мову і няма патрэбы яе надалей вывучаць. Затое цяпер прыязджаюць да нас людзі з розных частак Польшчы. Гэта вельмі добра, хаця яны паступаюць сюды не толькі беручы пад увагу беларускую мову, але больш па такой прычыне, што адначасова змогуць вывучыць дадатковую замежную мову.

Хаця не штогадова атрымоўваецца сабраць дастатковую колькасць кандыдатаў, каб адкрыць першы курс, прафесар Міхал Кандрацюк упэўнены, што беларуская філалогія ў Беластоку надалей будзе развівацца.




Марыя Савіцкая са Школы свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

Многія дэкламатары, з ліку 124 удзельнікаў цэнтральных элімінацый 42 Дэкламатарскага конкурсу на беларускай мове «Роднае слова», якія 10 красавіка адбыліся ў Бельскім доме культуры, выступілі на высокім мастацкім узроўні. Канешне, дэкламацыя была рознай, бо і на цэнтральныя элімінацыі прыехалі вучні з рознымі здольнасцямі. Аднак тыя, што былі слабей падрыхтаваныя, найчасцей не праходзілі адбораў у час раённых элімінацый, якія адбыліся ў Беластоку, Гайнаўцы, Орлі і ў Бельску-Падляшскім. Разам на раённых элімінацыях выступіла ажно 388 дэкламатараў. У ліку дзетак і моладзі, якія ходзяць на заняткі беларускай мовы, ёсць вучні, якія часта перамагаюць у конкурсе «Роднае слова» і да гэтага спрычыняюцца не толькі іх здольнасці, але таксама адпаведная праца настаўніка з вучнем, падбор цікавых, адпаведных да ўзросту дэкламатараў тэкстаў і салідная работа самога вучня.

На мерапрыемства прыбылі консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Аляксандр Сувораў, намеснік дырэктара Культурнага цэнтра Беларусі ў Польшчы Дзяніс Вялічка і новы намеснік бурмістра Бельска-Падляшскага Ян Радкевіч. Арганізатараў конкурсу ўзначальваў ваяводскі радны і заадно старшыня БГКТ ды віцэ-старшыня Таварыства беларускай культуры Ян Сычэўскі (ТБК было галоўным арганізатарам мерапрыемства), а за ходам імпрэзы наглядала сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч.

Ужо традыцыйна першымі на сцэну з вершыкамі і кароценькай прозай выйшлі дашкольнікі, якія апошнім часам штораз больш масава выступаюць з беларускім словам. Прыбыло па 7 дэкламатараў з Гайнаўкі і Беластока і 4 дашкольнікі з Бельска-Падляшскага. На конкурс прыязджаюць таксама дашкольнікі з вясковых гмін — прыбылі па трое дзетак з Арлянскай і Гарадоцкай гмін і па адным дэкламатары са школы ў Арэшкаве і з Вясковага дома культуры ў Рыбалах. Сёлета дашкольнікі выступілі ўдала, а калі нават некаторым не хапала адвагі і дэкламацыя была ціхаватай, то дзеткі выступалі шчыра і з вялікай прагай добра паказацца перад сваімі равеснікамі і старэйшымі дзеткамі. Вучні падставовых школ змагаліся за перамогу ў дзвюх узроставых катэгорыях — выдатныя дэкламатары паявіліся як сярод вучняў інтэграванага навучання, так і ў ліку старэйшых дзетак.

— Вельмі важна падабраць адпаведны да ўзросту і зацікаўленняў вучняў тэкст. Я, каб падрыхтаваць вершыкі, карыстаюся беларускімі кніжкамі і па інтэрнэце шукаю адпаведныя тэксты. Большае ў нашай школе колькасць вучняў і павялічваецца таксама колькасць ахвотных дэкламаваць па-беларуску. Нашыя дзеткі любяць выступаць перад публікай і толькі чакаюць дэкламатарскага конкурсу, — заявіла настаўніца беларускай мовы Іаанна Марко з Непублічнай падставовай школы імя свсв. Кірылы і Мяфодзія, адкуль прыехала многа дэкламатараў.

— Я вельмі люблю дэкламаваць і таму ахвотна прыступіў да конкурсу, — сказаў Рыгор Васілюк з беластоцкай школы.

Зузанна Бакер, Магдалена Гарустовіч і Марыя Савіцкая, таксама са школы імя свсв. Кірылы і Мяфодзія, выступілі ўдала, а ў размове са мной выявілі радасць, што могуць запрэзентавацца перад вялікай публікай. Марыя Савіцкая дэкламавала ў адмысловай блузцы з народнымі ўзорамі, якія вышыла яе бабуля. Многа вучняў прыступіла да школьных элімінацый конкурсу ў Комплексах школ у Чыжах і Нарве і па гэтай прычыне адбываліся там школьныя адборы.

— У нашай школе ажно 32 вучні з падставовай школы прыступілі да школьных элімінацый «Роднага слова», а разам з гімназістамі ў дэкламатарскім конкурсе прыняло ўдзел ажно каля 40 вучняў Комплексу школ у Чыжах, — заявіла настаўніца беларускай мовы са школы ў Чыжах Валянціна Андрасюк. — Аднак, каб дайсці да цэнтральных элімінацый, трэба прайсці вучням праз адбор у самым вялікім раёне, у Гайнаўскім павеце, дзе сёлета выступіла ажно каля 160 удзельнікаў. Мы просім арганізатараў конкурсу, каб падзялілі велізарны па колькасці дэкламатараў Гайнаўскі раён і хаця б вучняў з нашай школы ў Чыжах далучылі да раённых элімінацый у Орлі.

У Комплексе школ у Нарве да школьных элімінацый прыступіла больш за 30 дзетак і моладзі.

— Спачатку трэба дзетак вучыць падставам дэкламацыі. Пасля вучні набіраюць вопыту і калі салідна рыхтуюцца да конкурсаў з часам пачынаюць перамагаць. Калі вучні вельмі таленавітыя, могуць адразу дабіцца перамогі, — сказала настаўніца беларускй мовы са школы ў Нарве Ніна Абрамюк.

Мае суразмоўцы — вучні нарваўскай школы Крыстыян Паскробка і Агата Беразавец раней занялі прызавыя месцы ў конкурсе «Беларуская гавэнда», які ладзіцца ў Гайнаўскім белліцэі, а Ян Аксянюк рашыўся толькі на дэкламацыю.

— Я ад нейкага часу ўжо пастаянна выступаю з дэкламацыяй на беларускай мове. У мінулым годзе заняла тут першае месца і хацела б паўтарыць поспех, — заявіла Дамініка Пуц з Падставовай школы № 3 у Гайнаўцы, якая, як пасля аказалася, і ў гэтым годзе стала лаўрэатам першага месца. На перамогу разлічвала таксама Ванда Гіншт з ПШ № 6 у Гайнаўцы, а вучні з Гміннага комплексу школ у Міхалове, якія толькі з верасня мінулага года сталі вучыцца беларускай мове, хацелі спачатку спазнаць атмасферу конкурсу, пачуць дэкламацыю іншых і прыраўняцца з іншымі дэкламатарамі. Прыехалі яны з праваслаўным святаром іерэем Аляксандрам Алексеюком.

— Мы размаўлялі з нашымі бацькамі і таму так многа вучняў рашылася вучыцца ў нашай школе беларускай мове. Доўга не было ў Міхалове навучання па-беларуску і добра, што будзе прадаўжацца традыцыя з мінулага, — заявіў айцец Аляксандр Алексяюк.

— Нам падабаецца вучоба беларускай мове і заняткі цікавыя. Мы рады, што рашыліся вучыцца па-беларуску, а сёння цікава выступіць з дэкламацыяй, — сказалі Валерыя Люляк, Адрыян Данілюк і Наталля Алексяюк, якія ўжо ў час першай дэкламацыі на беларускай мове дабіліся поспехаў.

— Мы ад прадшколля дэкламуем пабеларуску і гэта нам вельмі падабаецца. Ужо зараз адважна выступаем перад публікай, хаця раней мацнавата хваляваліся, — сказалі сёстры Соня і Лена Сульжык з ПШ у Гарадку, якія сталі лаўрэаткамі першага месца ў сваіх катэгорыях.

Ажно 15% дзетак ад усіх вучняў Непублічнай падставовай школы ў Арэшкаве дайшло да цэнтральных элімінацый конкурсу і магчыма, што так добрага паказчыка ў 42-гадовай гісторыі конкурсу «Роднае слова» не дабілася дагэтуль ніводная школа. Справа аднак у тым, што ў школе вучыцца толькі 20 дзетак і 3 дэкламатараў, якія выступілі ў Бельску састаўляюць гэтыя 15% ад агульнага ліку вучняў арэшкаўскай школы. Настаўніца беларускай мовы ў гэтай школе Ірэна Герасімюк паінфармавала, што прыехалі лепшыя дэкламатары. У школе намнога больш вучняў зацікаўленых дэкламацыяй, якіх рыхтуе яна да конкурсу, звяртаючы ўвагу на інтэрпрэтацыю твораў, правільнае вымаўленне і націскі.

— Нашыя вучні многа дэкламуюць, хочуць дэкламаваць і я задаволена іх выступамі. Аднак штогод цяжэй падабраць займальныя тэксты для дэкламацыі, — заявіла настаўніца беларускай мовы з ПШ у Новым Корніне Яўгенія Сухадола. Хвалюецца яна за далейшую будучыню сваёй школы, у якой у наступным школьным годзе будзе вучыцца толькі больш за трыццаць дзетак.

У гэтым годзе выступілі толькі 19 гімназістаў, якія паспяхова прайшлі раённыя адборы. Традыцыйна запрэзентавалі яны высокі ўзровень дэкламацыі і выступілі з даўжэйшымі тэкстамі.

— Сёлетняя дэкламацыя была ўдалай, а ў параўнанні з папярэднімі гадамі палепшылася вымаўленне, з чым мы прасілі папрацаваць настаўнікаў беларускай мовы і іншых асоб, якія рыхтавалі дзетак да выступаў. Вучні і нават дашкольнікі наогул правільна ўжо вымаўлялі «л» зубное. Рэдка здараліся няправільныя націскі. Многія дэкламатары выступалі з цікавымі і ўдала падабранымі да іх узросту тэкстамі і, што самае важнае, дзеткі і моладзь патрапілі ўмела інтэрпрэтаваць дэкламаваныя творы, — сказаў доктар Васіль Сегень з Беластока, старшыня конкурснай камісіі, у якой працавалі таксама Ірэна Ігнатовіч з Гайнаўкі і Яніна Плютовіч з Бельска-Падляшскага.

## — Вынікі —

# Роднае слова 2013

Першыя месцы сярод дашкольнікаў занялі Аляксандра Кобусь з Непублічнага садка № 1 у Бельску-Падляшскім і Анна Іванюк з Самаўрадавага садка № 14 у Беластоку. Другія месцы занялі Дарота Юрчук з Садка № 3 у Гайнаўцы, Мая Засім з Беластока (Садок № 14) і Антон Шум з Вясковага дома культуры ў Рыбалах, а на трэціх месцах апынуліся Якуб Прыступюк з Садка № 1 у Гайнаўцы і Алівія Трахімчук з Самаўрадавага садка ў Гарадку. У катэгорыі вучняў класаў I-III падставовых школ першыя месцы занялі Мартына Белавежац з Чыжоў, Лена Сульжык з Гарадка і Якуб Наўмюк са Школы свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, на другіх месцах апынуліся Марыя Савіцкая з Беластока (сярод вучняў падставовых школ выступалі толькі дзеткі з вышэйзгаданай беластоцкай школы), Міхась Вароновіч з Залук, Ілья Фіёнік з ПШ № 3 у Бельску і Магдаліна Андраюк з Дома культуры ў Рыбалах, а трэціх месцаў было найбольш і занялі іх Ніна Марціновіч з Нараўкі, Якуб Казімірук з Новага Корніна, Наталля Алексяюк з Міхалова, Мікола Лапшын з Беластока і Ігар Зіноўчык з ПШ № 3 у Бельску. У катэгорыі вучняў класаў IV-VI падставовых школ на першым месцы апынуліся Соня Сульжык з Гарадка, Арыядна Бакер з Беластока, Дамініка Пуц з ПШ № 3 у Гайнаўцы і Максім Фіёнік з ПШ № 3 у Бельску, другія месцы занялі Валерыя Люляк з Міхалова, Аляксандра Салавянюк з Беластока, Агата Беразавец з Нарвы, Ізабэля Карчэўская з Чыжоў і Ганна Філіпюк з ПШ № 3 у Бельску, а трэція месцы камісія прызначыла Зузанне Кардзюкевіч з Беластока, Магдаліне Мішчук з Арэшкава, Дарыі Місяюк з ПШ № 3 у Гайнаўцы, Кацярыне Дружбе з ПШ № 1 у Гайнаўцы, Крыстыяну Паскробку з Нарвы і Вераніцы Федарук з ПШ № 3 у Бельску. Сярод гімназістаў першыя месцы занялі Магдаліна Гаўрылюк з Гайнаўскай белгімназіі і сёстры Магдаліна і Дар'я Маліш з Ягуштова, на другіх месцах апынуліся Юліта Тымашэвіч з Публічнай гімназіі № 7 у Беластоку, Анна Несцярук з Гайнаўскай белгімназіі і Марта Зінкевіч з Публічнай гімназіі № 3 у Бельску, а трэція месцы занялі Лукаш Марчук з Нараўкі і Магдаліна Кубай з Публічнай гімназіі № 3 у Бельску.



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

Патрыцыя БЯДРЫЦКАЯ

## Дзве Ані

*Былі сабе дзве падобныя Ані,*
*Вельмі лянівыя маладыя пані.*

*Яны заўсёды разам хадзілі*
*І таксама разам усё рабілі.*

*Восенню ў лесе грыбы збіралі*
*І жоўтае лісце з дрэў абтрасалі.*

*А ўзімку было так,*
*Што яны любілі доўга спаць.*

*Толькі разам у снежкі гулялі*
*І на прахожых снегам кідалі.*

*Потым шакалад з малаком пілі*
*І на санках ездзілі.*

*Вясной яны пасварыліся,*
*Абгаварылі сябе і... пабіліся.*

*Летам на сонцы разам не загаралі*
*І над рэчкай ужо не шпацыравалі.*

*З той пары мамам не дапамагаюць*
*І сяброў новых не здабываюць.*

*І так мінула дзесяць гадоў,*
*А яны не ходзяць ні да сябе,*
*ні да сяброў.*

# Найважнейшая дарога да поспеху

— Першы раз не атрымалася, а цяпер удалося, — трэцякласнік Адам Харкевіч задаволены сваім поспехам. І найбольш сабой, што не здаўся пасля першай паразы.

У час урачыстага падвядзення вынікаў для гімназій была выказана мудрая фраза: „Сам поспех не найважнейшы. Важная дарога, якую пройдзем да назначанай мэты. За гэты час маем магчымасць спазнаць праўду пра сябе, даведацца, якія ў нас мары, патрэбы, нястачы".

Адам не быў упэўнены, што стане сярод узнагароджаных лаўрэатаў і, вядома, хваляваўся:

— Яшчэ *пані* пажартавала, што не ўсе перайшлі да раённага этапу, — успамінае, — і я падумаў пра сябе: „Ужо канец. Не прайшоў". Таму сёння вельмі прыемна святкаваць, быць прачытаным разам з найлепшымі вучнямі ваяводства.



Сучасны вучань называе поспех сваім абавязкам. Здаровыя амбіцыі — гэта файна. Каміль Сцепанюк, які прыдбаў сем званняў лаўрэата, свой поспех займеў дзякуючы цяжкай працы. Ён з удзячнасцю гаварыў пра сваіх настаўнікаў, якія суправаджалі яго на дарозе да поспехаў. Пра свой навуковы талент хлапец не сказаў ні слова, хаця гэта зразумела. Каміль і Адам — абодва лаўрэаты па беларускай мове — далі інтэрв'ю на прыстойнай беларушчыне. У гэтым, менавіта, „тая дарога" да поспеху.

Невыпадкова на нашых старонках шмат месца прысвячаем прадметным конкурсам. Сёлета ў навуковых спаборніцтвах па 15 прадметах прыняло ўдзел 16 тысяч гімназістаў, з якіх толькі 756 асоб атрымалі званне лаўрэата. Нам, беларусам Падляшша, было прыемна калі сярод найлепшых называлі школы з беларускай мовай навучання. Таксама сярод наймалодшых удзельнікаў конкурсу апынуўся Шыман Юзаф Ручынскі з Гайнаўскай белгімназіі. Вельмі прыемна было сустрэць сярод лаўрэатаў аўтараў вядомых нашым чытачам са старонак „Зоркі". Проста — сэрца расце!

Урачыстае падвядзенне вынікаў адбылося 11 красавіка ў Беластоцкай гімназіі № 28. Яго ранг вызначалі прадстаўнікі гарадскіх і ваяводскіх улад ды мастацкія выступленні вучняў.

ЗОРКА

## Адказала хлусу

Дзесяцігадовая дзяўчынка Люба ў пяцідзесятыя гады пасвіла татавых і дзедавых каровак і некалькі авечак. Непадалёк свой статак пасвіў старэйшы чалавек — дзядзька Брумар. Яго каровы „хадзілі" добра ды не лезлі ў шкоду. Таму пастух прыйшоў да дзяўчынкі пагутарыць. Гаварыў, гаварыў, расказваў пра ўсякую ўсячыну, а быў ён вядомым жартаўніком, калі не сказаць хлусам. І калі Любачцы здалося, што пляце ён ужо, як кажуць, „тры па тры", адважылася і сказала:

— Дзядзька, дурны вас ксёндз хрысціў.

І ў адказ пачула дзядзькаву праўду:

— Слухай, бо тады мандрэйшых не было.

Трэба пасніць, што ў той час „дзядзькам" ці „цёткай" маладыя называлі ўсіх страрэйшых ад іх па ўзросце, не толькі родных, сваякоў. І маладыя старэйшым абавязкова кланяліся ды віталіся „добры дзень".

Уладзімір ЦІЛЮЛЬКА



Рыцарочкі – Олусь і Колусь Здрайкоўскія

## Конкурс пра вясну (17)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам вясны. Адказы, найлепш па электроннай пошце, дашліце да 8 мая. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**1. У якой навейшай польскай кінапрадукцыі выступае беларускі рэпер Vincent?**

а) „Poklosie",
б) „Жыве Беларусь",
в) „У цемры".

**2. Як завецца музычная акцыя дапамогі ў Польшчы, дзе разам выступаюць беларускія і польскія гурты?**

а) Салідарныя з Беларуссю,
б) Прыпынак Міхалова,
в) Раковішча.

**3. Як на Сакольшчыне называюць велікодны абрад калядавання?**

а) Канапелька,
б) Гуканне вясны,
в) Рагулька

**Рашэнне конкурсу № 13:** 1 — (б); 2 — (б); 3 — (а). Узнагароды, **фламастэры**, выйгралі **Каміль Барташэвіч** з Нараўкі, **Марцін Аўярчук** і **Войтэк Куптэль** з Арэшкава. Віншуем!

ЗОРКА

# Усе вучні падалі ў нас дакументы

Інтэрв'ю з **Яўгеніяй ВАСІЛЮК**, дырэктар Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Ярослава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім. Іх гімназія прыдбала 38 лаўрэатаў па прадметных конкурсах і заняла трэцяе месца сярод найлепшых школ у Беластоцкай акрузе.

**ЗОРКА:** — Вернецеся ў Бельск з вялікім поспехам. Што гэта значыць для Вас, настаўнікаў, школы, асяроддзя?

**Яўгенія ВАСІЛЮК:** — Гэта значыць, што наша школа найлепшая ў Бельску і адна з найлепшых у Беластоцкай акрузе. Маем лаўрэатаў па ўсіх прадметах апрача пластыкі і ведаў аб грамадстве. Найбольш, бо аж 14 лаўрэатаў — па беларускай мове, і гэта нас вельмі цешыць.

Як вядома — добрыя навіны хутка разыходзяцца і бацькі будуць ведаць куды запісаць сваё дзіця ў школу. А ў нас з гэтым няма вялікіх праблем.

**З:** — Ці ўжо вядома, колькі дзяцей паступіць у першыя класы?

**ЯВ:** — У першыя класы пачатковай школы запісалася 101 дзіця. Гэты лік дазволіць нам арганізаваць чатыры паралельныя класы. Такім чынам прыбудуць нам два класы, бо ў гімназію сёлета адыходзяць два. Тут трэба сказаць, што ўсе вучні з нашай школы падалі дакументы ў нашую гімназію, прыйдуць яшчэ з іншых школ і будзе працаваць тры класы гімназіі.



Яўгенія Васілюк, трэцяя злева

**З:** — З якіх яшчэ прадметаў, апрача беларускай мовы, маеце найбольш лаўрэатаў?

**ЯВ:** — Найбольш па рускай мове, біялогіі, хіміі. Тут трэба сказаць, што вельмі паспяхова праявілі сябе вучні другіх і першых класаў. У трэціх класах — 11 лаўрэатаў. Ёсць там хлапец, які звольнены з усіх прадметаў. Ён не будзе пісаць экзамену, бо з кожнага прадмета ён мае „сто працэнтаў”, максімальную колькасць балаў.

**З:** — Менавіта, ці часта трапляюцца такія вучні як Каміль Сцепанюк, лаўрэат па сямі прадметах?

**ЯВ:** — Такія здольныя вучні ў нас ёсць. У другім класе, напрыклад, маем ужо патройных лаўрэатаў.

**З:** — Вашая школа з 38 лаўрэатамі заняла трэцяе месца ў Беластоцкай акрузе, перамагаючы беластоцкія гімназіі, дзе лік вучняў у тры-чатыры разы большы. Гімназія ў „тройцы” не такая ўжо і вялікая.

**ЯВ:** — У нас недзе 270 гімназістаў, але тут не колькасць вырашае. Да нас прыходзяць вельмі здольныя вучні.

**З:** — Скажыце, як будзеце святкаваць у настаўніцкім крузе свой вялікі поспех?

**ЯВ:** — Мы ўжо часткова адсвяткавалі. 1 красавіка мы размеркавалі „матывацыйны дадатак” для настаўнікаў. Як кожны год, на Дзень настаўніка будуць таксама прызначаны ўзнагароды. Прозвішчы людзей, якія спрычыніліся да поспеху, чытаем у час школьнай лінейкі. Так што ў нас маем слоўныя і фінансавыя ўзнагароды.

**З:** — Тады прыміце ад нас нас віншаванні і падзяку за прыгожы падарунак для беларусаў Падляшша пад Вялікдзень.

**ЯВ:** — Дзякуем і таксама ўсіх віншуем са Святам!

# Музыка з кайфам

## Краіна паводле Вольскага




Лявон Вольскі не спіць. Можа здавацца нам, што з моманту, калі ён зышоў з гурту „N.R.M.”, яго кар'ера неяк прыкарацілася, але гэта толькі так падаецца. Гэты, як не гаварыць, легендарны музыка, аўтар, вакаліст час ад часу прабіваецца да свядомасці слухачоў з нейкай музычный неспадзяванкай. Зноў вярнуўся з імпэтам, а той імпэт мае свой унікальны загаловак «Жыве Беларусь!».

Фільм «Жыве Беларусь!» меў сваю прэм'еру 19 красавіка ў Варшаве. Гэта польска-французская кінапрадукцыя, рэжысёрам якой з'яўляецца паляк Кшыштаф Лукашэвіч. Сцэнар асnаваны на лёсах Франка Вячоркі, беларускага апазіцыянера, маладога, актыўнага чалавека, які з'яўляецца сааўтарам фільма. Я, зразумела, імкнуся ўбок музычных аказытаў фільма. Неяк за апошнія дваццаць гадоў беларускі супрацьдзеяння асацыюецца з рок-музыкай. Той матыў скарыстаны ў фільме, бо і галоўны герой фільма, Мірон, актыўны музыка. Ролю гэтую зайграў Зміцер Папко, больш вядомы як беларускі рэпер Vinsent. Музыка свядомы і бескампрамісны, які, здаецца, зараз знаходзіцца на шляху змагання, з якога цяжка будзе завярнуць. І так крок за крокам набліжаемся да дзядзькі Лявона. Лявон Вольскі не першы раз ангажуецца ў прадукцыю еўрапейскіх кінастужак. Раней выступаў ён у фільмах Мірослава Дэмбінскага, дзе побач яго асобы паяўлялася таксама музыка. На гэты раз Лявон Вольскі дапамог у стварэнні музыкі да фільма, а песня, якая прамуе фільм і саўндтрэк, мае загаловак „Краіна”. Паслухаць варта, а эфект такі як наогул — выйсці з галавы не захоча. Такое майстэрства Лявона Вольскага. Першы куплет тут — усё астатняе шукайце ў інтэрнэце ды слухайце на хвалях Радыё Рацыя.

*Для генерала краіна — вайна.*
*Для нефармала краіна — чума.*
*Для радыкала краіна — турма.*
*Але для большасці краіны няма.*
*Для панславіста краіна — адна.*
*Для сатаніста краіна — труна.*
*Для гітарыста краіна — струна.*
*Але для большасці краіны няма.*

Апошнім часам я чытала інтэрв'ю з Русяй, вакалісткай і сааўтаркай фольк-электроннага праекта „Shuma”, раней вядомую як рок-вакалістку гурту „Indiga”. Хаця яна гаварыла, што рок-музыка зараз не выратуе і не падштурхне чарговых пакаленняў, то выразна трэба падкрэсліць, што яе моц, яе энергія можа дапамагаць у падтрымцы. Доказам гэтаму быў безумоўна чарговы вялікі канцэрт „Салідарныя з Беларуссю”, які прайшоў на мінулай нядзелі ў Варшаве, а які вёў для ўдзельнікаў Vinsent — рэпер ды галоўны герой фільма „Жыве Беларусь!”.

**i_basovka@o2.pl**

# Вершы Віктара Шведа

## Ці мухі маюць матуль і татаў?

— Чаму ты прыліп да мух,
Дарагі Сымонка?
— Хачу адрозніць, хто з іх двух
Мужык, а хто з іх жонка?

Бачу на люстры мухі лік,
Гэта, вядома, жонка.
А на бутэльку сеў мужык,
Аматар самагонкі.

## У гэтым тата вінаваты

— Ты ўжо, сынок, падрос,
Хачу каб быў свядомы,
Што стары Дзед Мароз
Гэта быў я, вядома.

— Ведаю, татка мой,
І ведае мая матка,
Што нават бусел той
Гэта таксама татка.

# № 17 Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 13:

Лён, мова, ляскат, вясна, лопат, карова, на, мак, сакавік. Кум, воля, рака, вясло, аснова, капа, натака.

Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі **Куба Анішчук**, **Кшыштаф Бірыцкі**, **Іаанна Болтрык**, **Аня Панькоўская** з Нараўкі, **Мальвіна Маркевіч** з Бельска-Падляшскага, **Юлія Масайла** з Дубін, **Мартына Леанюк** з Орлі. Віншуем!



Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Гайнаўскія белгімназія і белліцэй запрашаюць на адукацыю

Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы — прэстыжная школа, якая лічыцца ў спіску самых лепшых звышгімназічных адукацыйных устаноў у Падляшскім ваяводстве. Белліцэісты і белгімназісты дабіваюцца шматлікіх поспехаў у прадметных алімпіядах, прадметных конкурсах, спартыўных спаборніцтвах, часта перамагаюць у вакальных, дэкламатарскіх, мастацкіх і іншых конкурсах і ўсё гэта працуе на вялікае прызнанне школы ў мясцовым грамадстве.

Высокі ўзровень навучання ў школе спрычыняецца да таго, што амаль усе вучні за першым разам паспяхова спраўляюцца з матуральнымі экзаменамі, што адкрывае перад імі дарогу ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Згаданы комплекс школ вылучаецца многімі козырамі — у ім добрыя ўмовы навучання ў збудаваным у 1993 годзе будынку, добрыя ўмовы для спартыўных трэніровак у вялікай спартыўнай зале, спалучанай з крытым басейнам, свая сталовая са смачным харчаваннем і распалажаная побач спартыўная пляцоўка «Орлік», якой таксама карыстаюцца вучні комплексу школ (зімой працуе там ледзяны каток). Пры гэтым усе вучні маюць магчымасць вучыцца беларускай мове і карыстацца многімі прывілеямі. Дырэктар школы Яўген Сачко 10 красавіка гэтага года арганізаваў прэс-канферэнцыю, у час якой разам з настаўнікамі расказалі пра новыя праекты, якія робяць белліцэй і белгімназію прывабнымі для вучняў, пазнаёмілі журналістаў са старэйшымі рэалізаванымі прапановамі, пазаўрочнай работай кружкоў зацікаўленняў і запрасілі выпускнікоў падставовых школ і гімназій паступаць у белгімназію і белліцэй. Сустрэча спачатку праходзіла ў чытальнай зале бібліятэкі, дзе знаходзіцца школьны мультымедыйны цэнтр, а пасля можна было пазнаёміцца з умовамі навучання ў школе.

Гайнаўскі белліцэй прыступіў да новага і вельмі прывабнага праекта «Спосаб на навучанне», фінансаванага з еўрасаюзных сродкаў, які будзе ахопліваць поўны трохгадовы цыкл навучання ў ліцэі і распачнецца ў наступным школьным годзе ў трох першых класах, па трох прадметах: матэматыцы, біялогіі і асновах прадпрымальніцтва. Згодна з новым праектам вучні атрымаюць планшэты, а ў новых класных кабінетах будуць пастаўлены 3 новыя інтэрактыўныя дошкі. Будуць апрацоўвацца праграмы для навучання гэтых прадметаў з выкарыстаннем электронных носьбітаў інфармацыі, вучні атрымаюць электронныя падручнікі. Прадбачваецца таксама арганізаванне вучням экскурсій у Цэнтр навукі «Капернік», у Польскі манетны двор, ці ў Фондавую біржу; і конкурсаў ведаў, а таксама навучных лагераў у час канікул.

— У рамках праекта «Спосаб на навучанне» ліцэісты бясплатна атрымаюць дапаможнікі. Настаўнікі прыступаюць да новай прапановы з вялікім энтузіязмам. Аднак для нашых педагогаў новы спосаб працы з вучнямі таксама новы выклік, бо спачатку самі будуць вучыцца працаваць інакш, чым



У прэс-канферэнцыі прынялі ўдзел (злева) дырэктар Яўген Сачко, настаўнік Ян Карчэўскі, намеснік дырэктара Ніна Лукасік і настаўніца Аліна Пліс

дагэтуль. У рамках праекта вучні змогуць выехаць у Англію, Італію і Францыю. Зараз у нашай школе 7 інтэрактыўных дошак. У рамках праекта маем атрымаць чарговыя 3 такія дошкі і адну плануем купіць самі. Гэта абазначае, што ў наступным школьным годзе ў палове нашых класных кабінетаў будуць усталяваны інтэрактыўныя дошкі. У іншых класах ёсць іншая тэхніка з выкарыстаннем электронных носьбітаў інфармацыі, — сказаў дырэктар Яўген Сачко. — Аднак галоўным козырам нашай школы з'яўляецца высокі ўзровень навучання, добрая падрыхтоўка да матуральных экзаменаў і вельмі здольнымі вучнямі і дзеля гэтага арганізуем індывідуальны ход падрыхтоўкі да алімпіяд і конкурсаў.

Настаўнікі стараюцца вылаўліваць здольных вучняў, працаваць з імі і разгортваць іх таленты. Пастаянная і шматгадовая праца ў гэтым напрамку дала рэзультаты. Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы атрымаў званне «Школы адкрывальнікаў талентаў», а такіх школ толькі 2 у Гайнаўскім павеце і 12 такіх ліцэяў у Падляшскім ваяводстве.

— Гэта вельмі вялікае вылучэнне на агульнапольскім форуме. Мы дабіліся



Калектыў «Знічка» заспяваў у харавым стылі (дырыжор — белліцэіст Каміль Васілюк, апякун — настаўніца Бажэна Ляўчук)

звання «Школы адкрывальнікаў талентаў» пасля доўгай сістэматычнай працы ў розных галінах: адукацыйнай, спартыўнай, ці падчас доўгай працы ў карысць мясцовага грамадства, якой займаецца валанцёрскі клуб. Усё гэтае мы мусілі пацвердзіць і апісаць. Мы стараемся працаваць з вучнямі здольнымі да мастацтва, музыкі, зацікаўленымі тэатральнай дзейнасцю, літаратурай, ці культурай. Працуем таксама са здольнымі вучнямі па канкрэтных прадметах, рыхтуючы іх да конкурсаў і алімпіяд. Удзел і перамога ў алімпіядах гэта не толькі змаганне за заліковыя кніжкі вышэйшых навучальных устаноў, але і падрыхтоўка да жыцця ў акружаючым свеце, — сказала настаўніца біялогіі Аліна Пліс.

Белгімназісты і белліцэісты вучацца беларускай мове не толькі ў час заняткаў, але таксама прымаючы ўдзел у мерапрыемствах і экскурсіях, напрыклад, выязджаюць на канцэрты ў рамках фестывалю «Бардаўская восень», у беластоцкі тэатр на спектаклі, з якімі прыязджаюць акцёры з Беларусі. Вучні

добрыя ўмовы для вучобы і рэалізацыі зацікаўленняў вучняў. Навучанне беларускай мовы ў нашай школе гэта таксама козыр, бо беларуская мова, гэта перш за ўсё мова бацькоў і дзядоў нашых вучняў, а добрае яе веданне можа таксама дапамагчы знайсці лепшую працу ў будучыні.

— Мы прапануем вучням разнародныя пазаўрочныя заняткі. Наша моладзь можа займацца ў школьным музычным калектыве «Знічка», у тэатральным кружку, кружку іканапісу, разгортваць свае спартыўныя здольнасці ў валейболнай, баскетболнай і футбольнай камандах, займацца па іншых відах спорту ў спартзале, на крытым басейне і пляцоўцы «Орлік». У нашай школе дзейнічае Школьны клуб валанцёра, які дазваляе нашай моладзі адкрывацца на іншых людзей і дапамагаць ім, — расказвала намеснік дырэктара школы Ніна Лукасік. — Арганізуем у школе таксама дадатковыя заняткі, у час якіх вучні папаўняюць свае недахопы па пройдзеным матэрыяле. Многа ўвагі адводзім працы са

прымаюць удзел у школьных спатканнях з беларускімі пісьменнікамі і іншымі цікавымі асобамі, прымаюць удзел у мерапрыемствах, якія ладзяцца ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. Ліцэісты выязджаюць на экскурсіі ў Беларусь, дзе знаёмяцца з духовай спадчынай беларусаў, наведваюць тэатры, музеі, іншыя культурныя ўстановы. Перамога ў Алімпіядзе па беларускай мове адкрывае перад белліцэістамі дзверы на шматлікія спецыяльнасці ў Варшаўскім універсітэце і ў іншых вышэйшых установах у Польшчы, напрыклад у Ягелонскім універсітэце, Каталіцкім Люблінскім універсітэце, Познаньскім універсітэце. Белліцэісты маюць таксама магчымасць прымаць удзел у Алімпіядзе па беларускай мове ў Рэспубліцы Беларусь і карыстаюцца гэтай магчымасцю.

— Навучанне беларускай мове і літаратуры ў нашай школе гэта не цяжкасць для вучняў, а іх козыр. Дзякуючы таму, што вучацца па-беларуску, могуць разгортваць свае зацікаўленні ў нашым тэатральным кружку «Драма», які рыхтуе вучняў выступаць пабеларуску на сцэне. Могуць яны спяваць на беларускай мове ў вакальным калектыве «Знічка». У нас у школе паўстала аб'яднанне «Наша школа», якое плануе наладзіць першы беларускі пікнік. Нашыя вучні маюць магчымасць надрукаваць свае артыкулы ў беларускіх перыядычных выданнях «Ніва» і «Часопіс», выказацца пры нагодзе розных беларускіх мерапрыемстваў перад камерамі тэлебачання і мікрафонамі радыёстанцый таму, што ўмеюць пісаць па-беларуску і размаўляць на беларускай мове. Гэта таксама козыр, які дазваляе пасля знайсці работу ў беларускіх сродках масавай інфармацыі, — расказваў настаўнік беларускай мовы Ян Карчэўскі. — Калі ў нашую школу паступяць вучні, якія раней не хадзілі на заняткі беларускай мовы, таксама будуць маглі вывучыць беларускую мову без праблемаў, бо мы выходзім да іх з індывідуальнай дапамогай.

У гэтым годзе плануецца арганізаваць набор у 4 класы белліцэя і 2 класы белгімназіі, які будзе доўжыцца да канца мая. У белліцэі прадбачваецца арганізаваць профільныя першыя класы: матэматычна-інфарматычны, медычнапрыродазнаўчы, юрыдычна-гуманістычны і матэматычна-геаграфічны. Вучні маюць вучыцца двум замежным мовам, выбраным з ліку англійскай, французскай, нямецкай і расійскай моў.

— Мы запрашаем вучняў у нашую школу, каб маглі тут цікава правесці час і, рыхтуючыся да матуральных экзаменаў, маглі разгарнуць свае здольнасці і таленты, — дабавіла настаўніца Аліна Пліс.


Францысканскі касцёл у Драгічыне

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Драгічынскі ландшафт

Слоўнік Каралеўства Польскага каля стодваццацігадовай даўнасці пра Сківвы пісаў так: „Skiwy, pow. bielski, gub. grodz. Na polach grupa mogił kamiennych”. Ды і сёння, магчыма, падобны слоўнік паўтарыў бы напісанае раней. Сківвы гэта не адна вёска, толькі дзве: Малыя і Вялікія. У Вялікіх некалькі каляхатніх крыжоў, больш-менш пароўну яны арыентаваны на ўсходнюю і заходнюю абраднасць. А над імі пах, які спадарожнічае тым гаспадаркам, дзе вядзецца вялікамаштабнае надойванне малака. У Малых Сківах каплічка, якая пасялілася ў былой вясковай хаце, перад ёю крыж з інфармацыяй аб пасвянчэнні яго папам Янам Паўлам ІІ 10 чэрвеня 1999 года.

Са Сківаў кіруюся ў Наройкі. Калісь я ўжо быў пісаў пра дарогу між гэтымі мясцовасцямі, што яна на мяжы гмін — Сямятыцкай і Драгічынскай — мяняе насціл. У час сухога надвор’я гэта можа малаважны фактар, але ў час змагання зімы з вясною там вялікі кантраст: з аднаго боку сухі асфальт, а з другога — плаваючае ў снегавым жолабе жвіровае балота.

У Наройках дзве крамы і працуюць яны так, быццам абедзве мелі забраніраваных сваіх верных пакупнікоў, якіх прадаўцы чакаюць без трапятлівасці, быццам з упэўненасцю, што „свае” і так не падвядуць „сваіх”. За царквою насупраць сябе два аб’екты, якія здаюцца быць наканаваны аднолькавым лёсам, хаця іх прызначэнне надта рознае; гэта школа і пункт прыёму малака. Дзверы ў іх здаўна закрыты, затое вокны — наадварот: пазбаўленыя шыб шчыра запрашаюць у свае інтэр’еры ўсе атмасферныя стыхіі.

З Наройкаў асфальтоўка вядзе ў Мілковічы. Вёсак з гэтай назвай некалькі, а галоўнай між імі з’яўляюцца Мілковічы-Мацькі, дзе касцёл. Слоўнік з 1880 года: „W M. Maćkach jest kościółek drewniany i cmentarz. Dwa razy do roku przybywa ksiądz z Drohiczyna dla odprawiania nabożeństwa. Na gruntach wsi groby kamienne”. Партал Драгічынскай дыяцэзіі паведамляе, што даўней называліся яны Мілковічамі-Рускімі, але ў XV стагоддзі ўласнікам вёскі стаў Мацей Мілкоўскі і мясцовасць памяняла назву. Пры гэтай нагодзе варта дадаць, што гэты дзедзіч быў адным з выдатнейшых дабрадзеяў драгічынскага кляштара францысканцаў. Краевугольны камень пад тамашні касцёл быў закладзены 202 гады таму, а 64 гады пазней, пасля Студзеньскага паўстання была ліквідавана парафія ў недалёкіх Садах, што, яшчэ нефармальна, павысіла ранг мілковіцкага касцёла. У савецкі час, калі Драгічын апынуўся ў прыгранічнай зоне, тамашнія касцёлы былі закрыты і Мілковічы-Мацькі сталі цэнтрам Драгічынскай парафіі.

Думаў я заглянуць і ў Сады, пра якія нядаўна была згадка ў 14-м нумары „Нівы”, бо там нарадзіўся паэт Іван Дацкевіч. Але грунтавая дарога з Мілковіч-Мацькаў у Сады была напоўнена балотна-снегавой граззю. Таму пра Сады прывяду адно вытрымку з партала Драгічынскай дыяцэзіі: „Warto jeszcze pamiętać, iż na terenie parafii miłkowickiej (wcześniej drohickiej) leży miejscowość Sady, w której w dniu 2 października 1596 roku został ufundowany kościół p.w. Trójcy Świętej, Najświętszej Maryi Panny, św. Krzysztofa i św. Anny. W ramach represji carskich w 1864 roku spalono kościół, a rok później skasowano parafię”.

У Сіневічах, што ў палове дарогі з Мілковіч у Драгічын, звярнуў маю ўвагу лацінскі крыж пры шашы, з 1918 года. На яго пастаменце белае поле ў кшталце сэрцайка, дзе з левага верху лацінскі крыж, а з правага візантыйскі, а пад імі агульная малітва ад бедстваў.

Афіцыйны экуменізм між праваслаўем і каталіцтвам завязаўся ў 1962 годзе, але ў народзе мае ён значна больш працяглую традыцыю, нягледзячы на ўсялякія канфесійныя непагадзі, прыношаныя з найвышэйшых зямных вярхоў. Магчыма, што ў тамашнім асяроддзі людзі больш гуманныя, бо ж па дарозе з Сіневіч у Драгічын амаль усе вадзіцелі спыняліся каля мяне, прапануючы падсадку.

За Драгічынам багатае мінулае, асабліва з часоў Сярэднявечча і Рэнесансу, калі ў пачатку XVI стагоддзя мясцовасць стала цэнтрам новага ваяводства, Падляшскага, вылучанага з паўднёва-заходняй часткі вялікага ваяводства Трокскага. Горад быў тады раскінуты па абодвух берагах Буга, а гэтая магутная рака вызначала там ход гістарычных падзей. Менавіта гэтая водная камунікацыя ўзвяла Драгічын у ранг вялікага цэнтра тавараабмену паміж ганзейскімі і візантыйскімі суб’ектамі. Варта згадаць, што адным з першых вучоных, якія сталі вывучаць мінулае Драгічына, быў заснавальнік беларускай археалогіі Канстанцін Тышкевіч; зацікавіўся ён Драгічынам у палове 1860-х гадоў.

Горад апынуўся не толькі на гаспадарчым сутыкненні Усходу з Захадам, але таксама і на культурным. Тут віталіся з сабою дзве плыні хрысціянства, тут дзейнічалі шматлікія храмы абодвух абрадаў. Зараз няшмат з тае спадчыны асталося; Крамская — у сівую даўніну Храмская — гара, якая аддзелена ад Замкавай гары глыбокім ярам, зараз зарастае дрэвамі, а раней быў там праваслаўны Троіцкі манастыр з некалькімі цэрквамі...

У 1596 годзе была заключана Брэсцкая унія, якая на працягу чарговых дзесяцігоддзяў і стагоддзяў памяняла мясцовы канфесійны ландшафт. Праваслаўныя дагэтуль вернікі апынуліся на раздарожжы, на якое паставілі яго ягоныя ўласныя іерархі. Разыходжанне адбывалася з рознай эмацыянальнай напружанасцю, у тым ліку і ў Драгічыне. Частка вернікаў падалася за новым пастырствам, частка асталася пры старым. Стала пытанне, за кім маюць астацца дасюлешнія іхнія храмы; гэтае пытанне давялося вырашаць уладным дзяржаўным вярхам. Вось адно з такіх рашэнняў каралеўскай камісіі з 1636 года наконт Спаскай царквы ў левабярэжнай, „рускай”, частцы горада: „My, comissarze jego k. mci, stosuiąc się do informaciey y instrukciey jego k. mci, pilną śmy inquisitią [расследаванне], tak o unitach iako y disunitach czynili. Kędy nie widząc żadnego unita na oko, ani się dowiedzieć mogąc, nieunitów zaś in multitudine [у мностве] całe miasteczko, które Ruskim zowią, wszystkich unanimiter [аднадушна] na oko widząc przy iednostaynym wyznaniu swym stoiąc disunickiem, cerkiew onym s. Spasa ze wszystkiemi apparatami, gruntami i przynależnościami do niey należącemi przysądzamy”. Спаскі манастыр існаваў да 1813 года, калі вялікая паводка зруйнавала ягоныя збудаванні.

Такое ж самае рашэнне было тады прынята і наконт Троіцкай царквы ў аднайменным манастыры, што ў правабярэжнай, „ляцкай” частцы горада: „Przed nami comissarzami parafianie z swieszczennikiem swym s. Troyce deklarowało się nam y oczewiście stanęli, że nie chcą bydz w uniy y owszem przez ten czas z musu y boiazni tantisper [у той час] verbaliter [на словах] unitami się zowiąc, realiter [па сутнасці] nieunicką zeznawali confessią. My tedy stosuiąc się wprzod ad multitudinem [да мноства] ludzi parafianow do tey cerkwi należących, będącich nie



Памятка каранацыі лацінскага караля Русі

w uniy, a potym i do fundacy miesczan samych, ktorzy przy disuniy bydz się ozywaią, onym tę pomienioną cerkiew Swiętey Troyce w realną onym oddaiemy possesią”. Рашэннем той жа камісіі Мікалаеўская царква была прысуджана ўніятам.

Дваццаць гадоў пазней на Драгічын абрынулася лавіна іншаземных войск. Слоўнік Каралеўства Польскага: „Dobry byt miasta trwał do roku 1657, kiedy Szwedzi z Rakoczym, księciem siedmiogrodzkim, w gruzy i popiół zamienili Drohiczyn wraz z zamkiem. Drohiczyn na lewym brzegu Bugu, Ruską stroną zwany, był dawniej od początku założenia swego przedmieściem miasta Drohiczyna Lackiego, położonego na prawym brzegu tejże rzeki. Rozłączenie obu tych miast nastąpiło dopiero po r. 1815, to jest za ustaleniem królestwa [polskiego]. Część w cesarstwie [rosyjskim], będąc właściwem miastem, została zawsze zamożniejszą i ludniejszą; kiedy przeciwnie [część] w królestwie, z położenia swego pomiędzy wodami, dołami i przerwami na niskich gruntach, które corocznie rujnuje wylew wody Bugu, doszła do takiego upadku, iż na mocy postanowienia rady administracyjnej, Drohiczyn, Ruską stroną zwany, od 1 stycznia 1863 zamieniony został na osadę wiejską”. Калі мова пра Драгічын у XIX стагоддзі, трэба мець на ўвазе, што „руская” частка горада была тады ў Каралеўстве Польскім, а „ляцкая” — у Расійскай Імперыі...

Троіцкі манастыр існаваў да XIX стагоддзя. Расійскае апісанне з 1808 года падае, што былі ў ім два манахі: Міхаіл і Афанасій. „Фольварокъ вместе съ монастыремъ. Амбаровъ два для ссыпки збожья и поклажи некоторыхъ хозяйскихъ вещей, покрыты одинъ досками, другой соломою. Клунь две для поклажи збожья и сена, покрыты соломою. Сараевъ для скота рогатого, лошадей и овецъ пять, встяжь построены подъ одну крышу, покрыты соломою. Скота рогатого воловъ 2, корова 1, телятъ трое, лошадь одна, овецъ 10, свиней 8. Содержание оный монастырь имеетъ отъ земли [у Сіневічах і Храловічах] и прихода церковнаго и прихожанъ благочестиваго [праваслаўнага] исповеданія. Всехъ душъ мужеска пола 56, женска 54; более прихода прихожанъ оный монастырь не имеетъ”. Царкоўнымі ўладамі ставілася пытанне аб пераводзе Троіцкага драгічынскага і Мікалаеўскага бельскага манастыроў у ранг прыхадскіх цэркваў, але была апаска „дабы по приверженности тамошнихъ православного исповеданія людей не подать случая къ скорому совращенію въ унію”. Справа дайшла нават да цара, але „его величество высочайше указать соизволилъ оставить ихъ въ томъ самомъ положеніи, какъ они прежде существовали”. У палове XIX стагоддзя Троіцкага манастыра ўжо не было, Троіцкая царква з-за старасці ўжо не ўжывалася, вернікі маліліся побач, у царкве св. Варвары, якая праіснавала да міжваеннага перыяду.

На месцы, дзе сёння Францысканскі касцёл, у сярэдневякоўі стаяла Багародзіцкая царква, у якой у 1253 годзе адбылася каранацыя князя Даніла папскай каронай. Дзесяць гадоў таму, у 750-годдзе каранацыі, побач мураванай агароджы касцёла быў устаноўлены валун з памятнай таблiцай, прысвечанай той найбольш зорнай у гісторыі Драгічына падзеі.




# PROGRAM:

10 maja, 18.00 (Sala Kameralna, Foyer)

**DEBATA** poświęcona stosunkom polsko-litewskim

**PROMOCJA KSIĄŻKI** „My nie bracia, my sąsiedzi" — Antologia tekstów poświęconych historii stosunków polsko-litewskich widzianych z polskiej perspektywy

*We współpracy z Kolegium Europy Wschodniej im. Jana Nowaka-Jeziorańskiego we Wrocławiu oraz Urzędem Marszałkowskim Województwa Podlaskiego*

**Otwarcie wystawy OLEG KOBZAR** ***MALARSTWO***

**RECITAL** Olega Kobzara

11 maja, 18.00 (Sala Wystawowa, Foyer)

**Otwarcie WYSTAWY POŚWIĘCONEJ JANOWI TARASIEWICZOWI** przygotowanej we współpracy z Białoruskim Państwowym Archiwum-Muzeum Literatury i Sztuki w Mińsku oraz Białoruskim Towarzystwem Historycznym

**KONCERT KAMERALNY**
Krzysztof Stanienda — fortepian
Rafał Dudzik — skrzypce
Szymon Stępka — wiolonczela
*Jan Tarasiewicz* Smutnaja piesieńka, Ramans, Kujawiak, Serenada, Rozdum, Trio D-dur

12 maja, 18.00 (Foyer)

**BIAŁORUSKIE ROMANSE**
Ilia Silczukou — baryton (Białoruś)
Taćciana Łojsza — fortepian (Białoruś)
*Jan Tarasiewicz, Maksim Bahdanowicz* Pieśnia
*Jan Tarasiewicz, Maksim Bahdanowicz* Wosieńskaja pieśnia
*Symon Rak-Michajłouski, red. Ihar Ałounikau, Maksim Bahdanowicz* Zorka Wieniera
*Leanid Zachleuny, Maksim Bahdanowicz* Skrypusia
*Stanisław Moniuszko, Władysław Syrokomla* Dwa fragmenty z cyklu wokalnego „Lirnik wiaskowy" (№№ 3-4)

**KONCERT CHÓRU OiFP**
Chór Opery i Filharmonii Podlaskiej w Białymstoku
Violetta Bielecka — dyrygent
Marta Wróblewska — sopran
Paulina Malinowska — alt
Piotr Rafałowski — tenor
Roman Chumakin — bas — baryton
Monika Bierć — fortepian

I cz.

białoruska melodia ludowa opr. M. Rawieński *Oj, wysocza* na chór męski *a cappella*; J. Tarasiewicz, transkrypcja A. Giembicki Pieśń *Ech, skruczu ja dudku* z cyklu *Piesni żalby* na chór męski *a cappella*; M. Rawieński *Wiasna* na chór mieszany *a cappella* z chóralnego cyklu *Pory roku*; białoruska melodia ludowa opr. M. Rawieński *Janek* na chór mieszany *a cappella*; białoruska melodia ludowa opr. M. Rawieński Kałychanka na mezzosopran solo i chór mieszany *a cappella*; J. Tarasiewicz, sł. J. Kołasa *Kałychanka* na chór męski *a cappella*.

II cz.

J. Daszczyński, autorska transkrypcja Wł. Bajdawa *Litanija Wostrabramskaja* D-dur na solistów, chór mieszany i fortepian

Wstęp wolny na wszystkie wydarzenia

# http://yuyaskevich.ucoz.ru



Мастацтва, калі яно носіць традыцыйны характар, не заўсёды заўважнае. Жывапіс, пейзажы, нацюрморты — што, здаецца, новага можна тут убачыць і намаляваць? Але для мастака, які ўлюбёны ў пэндзаль і палатно, такога пытання не паўстае. Ён, дарэчы, як і фатограф, не толькі бачыць новае вакол нас, але і ў стане перадаць яго, данесці да тых, хто ў паўсядзённым шэрым жыцці страціў здольнасць успрымаць прыгожае.

Адным з прыкладаў такога погляду на рэчаіснасць з'яўляюцца працы маладога беларускага мастака Юрася Яскевіча з Мінска. Каб бліжэй пазнаёміцца з імі, трэба зайсці на яго персанальны сайт, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://yuyaskevich.ucoz.ru.**

Згодна інфармацыі, размешчанай у расійскім пашукавіку Рамблер, Юрась працуе ў традыцыйных жанрах алейнага станковага жывапісу: пейзажу, нацюрморту, партрэту, а таксама ў такіх сферах, як эксперыментальныя канцэптуальныя кампазіцыі, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, дызайн, афармленне інтэр'еру, разьба па дрэве і вітражы.

На галоўнай старонцы сайта 28-гадовага мастака месціцца яго кароткая, літаральна некалькі радкоў, біяграфія. Адтуль мы даведаемся, што жывапісам ён стаў займацца з самага дзяцінства, уважліва вывучаючы натуру і рускае мастацтва. „Разам з мастакамі-аднадумцамі ўдзельнічаў у выставах , якія праходзілі у Мінску, Баранавічах, Барысаве. Некаторы час працаваў выкладчыкам. У 2010 годзе ўдзельнічаў у пленэры-акцыі дзеля захавання кляштара бернардзінцаў у Мінску, якому пагражае перабудова ў гасцініцу", — гаворыць пра сябе ў трэцяй асобе Юрась Яскевіч.

„Дзяцінства мастака часткова прайшло на Валожыншчыне сярод прыродных багаццяў і культурнай самабытнасці, што ў асноўным вызначыла творчы шлях. Творчасць заключаецца ў працы з натурай, таму як у натуры захоўваецца ўсё багацце, усё зіхаценне навакольнага свету. Тут можна ўбачыць гармонію насычаных фарбаў", — рэкламуе абраны ім мастацкі напрамак аўтар карцін.

Юрась упэўнены, што яго творчасць максімальна шчырая, эмацыянальная, музыкальная, напоўненая глыбокім сэнсам і гармоніяй, непадпарадкаваная нетрывалым модным плыням.

Так гэта ці не, можна спраўдзіць, праглядзеўшы выявы карцін мастака, якія змешчаны на старонках сайта. Дарэчы, такіх старонак не надта многа і яны ўяўляюць з сябе сістэматызацыю жанраў, у якіх працуе Яскевіч. „Нацюрморты", „Пейзажы", „Графіка" і „Канцэптуальныя кампазіцыі" — выйсці на старонкі з такімі назвамі месціцца з правага боку выяўлення, што даволі арыгінальна ў параўнанні з традыцыйнай будовай сайтаў, дзе выйсці на старонкі звычайна з левага боку ці ўверсе цэлага выяўлення.

Праўда, калі няма жадання ці часу блукаць па вышэйазначаных віртуальных залах з карцінамі маладога мастака, то можна папросту пайсці ў рубрыку „Галерэя" і адразу ўбачыць усе прадстаўленыя на сайце карціны.

Нельга пакінуць без увагі аб'яву на галоўнай старонцы сайта, дзе, акрамя прэзентацыі творчасці Яскевіча і яго партрэтнага фотаздымка, месціцца аб'ява аб выставе „Спыніцца час", адкрыццё якой было запланавана на 26 красавіка ў мінскай галерэі „Вільнюс". Тыя, хто туды трапіць, змогуць пабачыць, акрамя твораў Яскевіча, таксама графіку Аляксея Заікіна і жывапіс Дзмітрыя Пятроўскага.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

# Дата з Календара

Чалавек, які замаляваў усю Беларусь

## 130 гадоў з дня смерці Напалеона Орды



На 26 красавіка прыпадаюць круглыя ўгодкі з дня смерці Напалеона Орды, знакамітага мастака, піяніста, кампазітара, удзельніка паўстання 1830-1831 гг., чалавека, які аб'ехаў, абышоў усю Беларусь. І не проста абышоў, але і зафіксаваў для нашчадкаў выдатнейшыя мясціны нашай мінуўшчыны, пакінуўшы багатыя зборы сваіх малюнкаў.

Нарадзіўся Напалеон Орда 11 лютага 1807 г. у мясцовасці Варацэвічы тагачаснага Пінскага павета (цяпер гэта Іванаўскі раён Берасцейскай вобласці). Бацькам яго быў інжынер, які займаўся фартыфікацыяй. Пачатковую адукацыю Напалеон атрымаў дома. Галоўнай яго выхавацелькай і дарадчыцай цягам усяго жыцця была маці — Юзафіна — дачка пінскага суддзі Тадэвуша Бутрымовіча. Яна валодала французскай мовай і была таленавітай піяністкай. Першыя ўрокі ігры на фартэпіяна будучаму кампазітару дала менавіта яна.

У 1823 г. Напалеон скончыў славутую Свіслацкую гімназію, пасля чаго паступіў у Віленскі ўніверсітэт. У 1927 г. быў выключаны адтуль за ўдзел у тайным студэнцкім таварыстве „Заране". Калі надышло вызвольнае лістападаўскае паўстанне, Орда не застаўся ўбаку. Пасля паразы збройнага чыну ён эміграваў, жыў у розных еўрапейскіх краінах: Аўстрыі, Швейцарыі, Італіі, Францыі. У 1833 г. ён трапіў у Парыж, дзе шчыльна кантактаваў з Адамам Міцкевічам, дасканаліў сваё майстэрства ігры на фартэпіяна, сябруючы з Фрыдэрыкам Шапэнам. Там жа атрымаў мастацкую адукацыю ў студыі вядомага партрэтыста Паскаля Жэрара. У гэты ж час Орда выдае свае фартэпіянныя творы. А ў сярэдзіне 1840-х гг. ён узначальваў Італьянскую оперу ў Парыжы.

У 1856 г. Орда пакідае ўладкаванае еўрапейскае жыццё і вяртаецца на радзіму. Пэўны час жыў у Варацэвічах, а таксама ў Гродне, пасля перабраўся на Валынь, працаваў там хатнім настаўнікам.

У 1873 г. Напалеон Орда выдаў „Граматыку музыкі", якую вельмі высока ацаніў Станіслаў Манюшка. Увесь час Орда нястомна працаваў як мастак. Яго ным сапраўдным захапленнем былі архітэктурныя помнікі і мясціны старасветчыны. Ён вельмі шмат падарожнічаў па землях былога Вялікага Княства Літоўскага, рабіў замалёўкі акварэллю, алоўкам, сепіяй. У той час, калі яшчэ не было фатаграфіі, яго працы сталіся неверагодна патрэбнымі. Пры тым ён рэдка адыходзіў ад „дакументальнасці", што зрабіла яго творы каштоўнейшымі крыніцамі па гісторыі архітэктуры. Толькі на тэрыторыі сучаснай Беларусі ім зроблена каля 300 малюнкаў гарадоў, мястэчак з выявамі палацаў, храмаў, замкаў. Асабліва каштоўныя з іх — малюнкі тых гістарычных аб'ектаў, якія не захаваліся, альбо збераглі ся толькі часткова. У Польшчы выдадзеныя шматлікія альбомы, прысвечаныя багатай мастацкай спадчыне творцы. За апошнія дваццаць гадоў не раз выдаваліся рэпрадукцыі малюнкаў Орды і ў Беларусі.

У 1883 г. Орда раптам захварэў і памёр у адным са шпіталяў Варшавы. Пахаваны ў радавым склепе на радзіме, пра што ён прасіў у сваім запавеце. У Іванаве выдатнаму мастаку і кампазітару пастаўлены прыгожы помнік.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Такая праўда...

Прачытаў я тэкст „Ад vосем к Сідаруковаму слову” аўтарства Міхася Куптэля, які друкаваўся ў 7 нумары „Нівы” ад 17 лютага. Рэпліка, разумеецца, тычыцца майго допісу „Я не плачу, я рэальна думаю”, які апублікавала „Ніва” ад 20 студзеня. Праўду сказаўшы, не зразу я рашыў узяць голас і працягваць спрэчку з шаноўным аўтарам. Не магу аднак пагадзіцца з высновамі, якія калега прад’яўляе ў другой частцы допісу.

«Я згодны з Сідаруком, што ёсць розніца між словам „даць” а „хацець прызначыць”, — піша Міхась Куптэль. — Гаворка тут ідзе пра 30 млрд. злотых, аб якіх гаварыў у экспазе прэм’ер-міністр Дональд Туск, з прызначэннем іх на мадэрнізацыю чыгункі. Спадар Сідарук хацеў бы пачуць, што 30 млрд. прэм’ер-міністр дасць на чыгунку, а не нешта абяцае».

Вось што скажу, паважаны калега. Працэдуры ў дэмакратычнай Польшчы мне добра вядомыя. Не аспрэчваю, што Дональд Туск са сваёй партыяй перамог на выбарах два гады таму. Але ёсць і другая праўда — сучасная рэчаіснасць. У рэйтынгу на палітыка 2012 г. Туск атрымаў адно 7% даверу ў палякаў, яго працу кабінета адабрае 24% апытаных, прытым дрэнна прэм’ер-міністра ацэньвае 64%, а ўрад — 73% (даныя ЦБОС з паловы сакавіка г.г.). Што паўплывала на спад папулярнасці прэм’ер-міністра? Ці абы не абяцанкі-цацанкі? Прыпамінаецца мне народная мудрасць: „Слова даражэйшае за грошы”. І так быць павінна. А ў нас усё шыварат-навыварат! Няма ніякай адказнасці за словы, тым больш за справы. І маем тое, што маем.

Два гады таму ўступіў у сілу закон аб адказнасці публічных чыноўнікаў (**ustawa o odpowiedzialności majątkowej funkcjonariuszy publicznych za rażące naruszenie prawa**). І што змянілася за апошнія гады? Пакажыце мне пакараных за няправільнае рашэнне чыноўнікаў у казначэйскіх установах, лекараў, начальнікаў у суполках групы ПКП, самаўрадавых начальнікаў ад войта пачаўшы, міністраў. Дастаткова паглядзець перадачы на тэлеканале Польсат „**Państwo w Państwie**” і тады хочацца крычаць: „Госпадзе, чаму бачыш, а не грыміш!”. Вось такая рэчаіснасць. Сумная, але праўдзівая. І з гэтым трэба змірыцца...

А вяртаючыся да спраў чыгункі. Не гавару, што прэм’ер-міністр за ўсё адказвае. Ён нясе палітычную адказнасць, а за паасобныя галіны эканомікі адказваюць міністры і вышэйшыя чыноўнікі. За ўчынены балаган на чыгунцы два гады таму быў адхілены ад пасады міністр інфраструктуры Цэзары Грабарчык. На яго месца назначыў Туск свайго прыяцеля Славаміра Новака. Зараз гаворыцца, што Славамір Новак — адзін з найгоршых міністраў, якія трапіліся чыгунцы. І што прэм’ер Туск робіць? Глядзіць праз пальцы прыжмуранымі вачыма. Нельга ж пакрыўдзіць калегу, даваць яго ў адстаўку. Усё ж такі ў футбол гуляюць у адной камандзе — Грамадзянскай платформе. Не стану спрачацца з калегам наконт урадавай палітыкі, якая тычыцца чыгункі. Адно скажу. Няма зараз гаспадара, які задбаў бы за грамадскую, затым чыгуначную маёмасць. Вялікай памылкай было здаванне стратэгічнага сектара нацыянальнай эканомікі цывільным суполкам. І таму на адказных пасадах апынуліся нявопытныя чыноўнікі, якія дбаюць больш за высакаплатныя пасады, чым за справы прадпрыемства. Падобна справа маецца з маршалкоўскімі ўправамі, адказнымі за рэгіянальныя пасажырскія перавозы ў ваяводствах. Доказаў не трэба далёка шукаць. Ніжнешлёнская чыгунка. За мінулагодні балаган з раскладам язды паляцела некалькі начальнікаў з вярхушкі. Для кампенсацыі гэтага прадбачваецца зараз арганізаванне там чыгункі хуткага руху, хоць для гэтай мэты няма на сённяшні дзень ані тэхнічных, ані юрыдычных магчымасцей (паводле праграмы апрацаванай Міністэрствам інфраструктуры і чыгуначнай суполкай ПЛК наконт прывядзення ў рух чыгункі хуткага руху). Нягледзячы на гэта, у траўні 2011 г. ПКП Інтэрсіці заключыла з фірмай Alstom Transport кантракт (варты 665 млн. еўра) на пастаўку 20 цягнікоў маркі Pendolino для чыгункі хуткага руху. Дзеля таго Інтэрцісі атрымала ад урада гарантыю на фінансаванне згаданай закупкі праз Еўрасаюз, і крэдыт з Еўрасаюзнага інвестыцыйнага банка. Першыя цягнікі будуць пастаўлены ў 2013-2014 гадах і будуць курсіраваць на лініях Варшава — Гданьск, Варшава — Кракаў і Варшава — Катавіцы з хуткасцю 220 км/гадз. Ці гэта не балаган? Няма адпаведнай інфраструктуры, а мы заключаем мільённыя кантракты на пастаўку лакаматываў хуткага руху. Дзе яны будуць ездзіць? Сябра Куптэль можа цешыцца, бо мо і ён разам з прэм’ер-міністрам Тускам, натабена гданьшчанінам, пакарыстаецца хуткімі цягнікамі. А нам, простым смяротным, застаецца адно крычаць на ўсё горла, каб хтосьці змілаваўся і кінуў нейкі грош на мадэрнізацыю чыгункі на Усходняй сцяне ў падляшскім скансэне, бо там жывуць людзі другой катэгорыі. Паважанаму прыяцелю, аднак, прыйдзецца, калі прыедзе ў роднае Махнатае, задаволіцца, як сам кажа, незаменным... роварам. Такая рэчаіснасць, бо Маршалкоўская ўправа больш грошай прызначыць на оперу, чым на мадэрнізацыю чыгункі ў Падляшскім ваяводстве. Так то бывае з цывілізацыйным прагрэсам.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Па гарачых слядах

Цяпер маставая ваяводскай дарогі з Юшкавага Груда ў Навасады цераз Новае Ляўкова і Нараўку ў „дзірках” як швейцарскі сыр. Зараз ехаць на ёй вельмі небяспечна не толькі роварам, але і самаходам.

З красавіка г.г. солтыс Новага Ляўкова (Нараўчанская гміна) паехаў да дырэктара Падляшскага праўлення ваяводскіх дарог у Беластоку. Ён расказаў мгр. інж. Міраславу Ганчаруку пра найгоршы адрэзак ваяводскай дарогі праз Новае Ляўкова і да суседняй вёскі Плянты.

Дырэктар прыхільна паставіўся да прапановы солтыса і абяцаў неадкладны рамонт маставой там, дзе найбольш небяспечныя выбоіны. І ўжо дарожныя службы пачалі „латаць”.

Дырэктар абяцаў, што калі сыдзе снег і высахне маставая дарогі на вышэйзгаданым адрэзку, дарожныя рабочыя выканаюць т.зв. бітумічную вылеўку. А гэта ўжо штосьць.

(яц)

## Адгаданка

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне.

1. спакушаны Евай = 20 _ 67 _ 79 _ 80 _;
2. скручаны лазовы або бярозавы дубец = 53 _ 54 _ 55 _ 42 _ 43 _;
3. Сталін або Лукашэнка па верхняй губе = 78 _ 72 _ 73 _ 74 _ 15 _;
4. расійскі квазі-кіламетр = 58 _ 59 _ 60 _ 52 _ 61 _ 62 _;
5. гродзенская паэтэса — прозвішча: Бічэль; імя: ... = 28 _ 29 _ 21 _ 39 _ 35 _ 9 _;
6. месца дня ў сістэме часападліку = 7 _ 36 _ 23 _ 22 _;
7. гарачае вуголле = 40 _ 27 _ 26 _;
8. прозвішча героя Савецкага Саюза, які ў 1944 годзе загінуў каля Гарасімавіч у баях за Дуброву = 56 _ 57 _ 31 _ 32 _ 33 _ 34 _ 8 _;
9. вялікі французскі горад на Роне = 44 _ 45 _ 46 _ 47 _;
10. начное свяціла = 38 _ 37 _ 30 _ 18 _ 64 _;
11. навейшыя фасоны ўбораў = 71 _ 70 _ 69 _ 68 _;
12. жанр мастацтва са спевамі і танцамі = 11 _ 12 _ 13 _ 14 _ 24 _ 25 _;
13. урачысты верш прысвечаны герою = 51 _ 50 _ 41 _;
14. жаночы голас = 1 _ 2 _ 3 _ 4 _ 5 _ 48 _ 49 _;
15. выкананне песень = 75 _ 76 _ 77 _ 6 _;
16. цудадзейная прыгажуня = 19 _ 63 _ 10 _;
17. вартасць тавару ў рублях і капейках = 65 _ 66 _ 16 _ 17 _.

(ш)

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | | | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | | | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 |
| 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | | 38 | 39 | 40 | 41 |
| | | | | 42 | 43 | 44 | 45 | 46 | 47 |
| 48 | 49 | 50 | 51 | 52 | 53 | 54 | 55 | 56 | 57 |
| | 58 | 59 | 60 | 61 | 62 | 63 | 64 | 65 | 66 |
| | | | | 67 | 68 | 69 | 70 | 71 | 72 |
| | | | | | | | | 73 | 74 |
| | | | | 75 | 76 | 77 | 78 | 79 | 80 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 12 нумара**

Авёс, панцыр, Таль, акын, тэнісіст, компас, „Іж”, ар, чын, кемпінг, іл, вы, пяльцы, рыал, го, жорсткасць, партыя, Гобі, Ош.

Рашэнне: **Ёсць тры катэгорыі жанчын: кемлівыя, прыгожыя і большасць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Уладзіміру Ахрымюку** з Беластока.

## 28.04 — 04.05

**(22.03. — 20.04.)** Да 30.04. неабдумана не кажы „не”. Разглянься за дадатковай касай. У тваім жыцці пачынаецца пад’ём. Новыя знаёмствы, таксама і рамантычныя. Можаш выбрацца ў падарожжа. У чацвер цікуюць непрадбачаныя страты. У пятніцу задбай аб бяспеку сябе і тваіх блізкіх.

**(21.04. — 21.05.)** Асабліва да 29.04. прыслухоўвайся парадам. Не распавядай аб сваіх планах. Да 30.04. лад зорак прадбачвае складанасці. Сур’ёзныя планы адкладзі на наступны тыдзень, усё пакуль разваж і абдумай. У аўторак паплаці рахункі, выканай старыя абяцанні і выслухай падказак. У пятніцу магчымыя юрыдычныя праблемы.

**(22.05. — 22.06.)** У панядзелак пазбягай большай фізічнай напругі, не рабі больш чым можаш. Аўторак — дзень кантрастаў, можа пачацца добра, горш кончыцца або наадварот. Серада — псіхалагічна нестабільны дзень. У чацвер не глядзі на падаючыя зоркі, каб не прыцягнуць хваробы ці хуткай старасці. У суботу не ідзі да цырульніка.

**(23.06. — 23.07.)** 27-30.04. час спрыяе адкрыванню важнага. Маеш шанц развязаць нейкую немалую праблему. 29-30.04. можа нахлынуць на цябе пачуццё самоты, блізкія могуць цябе не разумець; не спрачайся з імі. Ды можа паявіцца надзея на большую касу. Чацвер добры для даследчыцкай працы. У суботу не афішуйся са сваімі планамі.

**(24.07. — 23.08.)** Да 30.04. можаш не развязаць сваіх некаторых праблем. Але 27-29.04. мілыя рамантычныя кліматы. Можаш цяпер добра задбаць аб валасы і скуру. Увесь тыдзень небяспека з агнём і электрычнасцю. У чацвер да абеду можа на цябе напасці працяглая ікаўка. Пятніца — паваротны дзень, які можа вельмі многа змяніць.

**(24.08. — 23.09.)** Твае пачуцці возьмуць верх над логікай, што можа стаць прычынай тваіх промахаў. Будзь асцярожны, не прымай ніякіх падарункаў ад малазнаёмых. Панядзелак добры для індывідуальнай творчасці. У першую палову аўторка рэалізуй старыя планы. У чацвер могуць цябе нявінна абвінаваціць. У пятніцу не ўстаўляй новых акон, дзвярэй і замкоў. У ноч з суботы на нядзелю магчымыя вешчыя сны.

**(24.09. — 23.10.)** Да 30.04. можаш апынуцца ў неадпаведным месцы і часе. У аўторак добры час для таго, каб выкрыць свае скрытыя магчымасці; услухайся ў сваю інтуіцыю — яна паведаміць табе аб чымсьці важным. У сераду дасць пра сябе знаць стары канфлікт; трымайся здалёк ад непрыемных людзей, якія гатовы на розныя падвохі і правакацыі. У пятніцу папраўляй старыя памылкі.

**(24.10. — 22.11.)** Да 30.04. — аж кіпіць у пары. Магчымыя сумесныя праекты з былымі канкурэнтамі і праціўнікамі. Выкарыстай усе свае рэзервы і сілы, каб дабіцца таго, што табе належыцца ад лёсу. Інвестыцыі, страхоўка, скідкі ў падатках павінны прынесці табе прыбытак. У сераду схадзі да лекара. У чацвер схіліш да сябе так сяброў, як і непрыхільнікаў.

**(23.11. — 22.12.)** Да 30.04. магчымыя непрыемнасці са страваваьным шляхам. Чакае цябе многа спраў і праблем, усё канчаткова пойдзе к дабру. Прыйдзецца папрасіць дапамогі, таксама ва ўплывовых асоб. Грамадскія кантакты спатрэбяцца пасля для службовых аперацый. У чацвер не купляй залатых аздоб. Усе твае жаданні здзейсняцца ў пятніцу.

**(23.12. — 20.01.)** Ідзе добры час для атрымання ведаў і набыцця новага вопыту. Можаш закласці добрую аснову для будучых поспехаў. Добры час на пошукі работы. У аўторак асабліва выгадныя знаёмствы. Камандзіроўку з чацвярга лепш адтэрмінуй. У пятніцу не канфліктуй з супрацоўнікамі.

**(21.01. — 19.02.)** Не нарабі чагосьці, чаго будзеш шкадаваць. Кантралюй свае паводзіны, не давай свабоды эмоцыям і пачуццям, каб не адбылося штосьці незваротнае. Адкрыюцца новыя магчымасці, ды прымай пад увагу ўсе дарогі адступлення. У пятніцу малыя сюрпрызы ў каханні.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** Пераменлівыя настроі да 29-30.04.; адпачываючы дома, і так будзеш думаць пра школу ці працу. Тыдзень поўны прыгод. Атрымаеш адказ на вельмі важнае для цябе пытанне. Будзеш талковы і разважны — знойдзеш правільнае рашэнне ў кожнай сітуацыі і справішся з праблемамі. У аўторак рамантычнае знаёмства з чалавекам здалёк. Чацвер добры для бізнесу і дзелавых адносін.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Лондан: уік-энд у дажджы і нарцысах

*(пачатак у № 13)*

У час вечаровай сустрэчы паэтаў і бізнесоўцаў над Лонданам пракацілася бура з маланкамі. Аматары прыгожага слова, рассеўшыся паўкругам, з піўцом у руках, распавядалі пра свае музы, дасягненні, планы. Пра такія тусоўкі паўнакроўныя паэты кажуць: гаварыльня. А ўжо найбольш пастараўся сам прэзідэнт выдавецтва „Ібіс”. Яго павучальны даклад датычыў маркетынгу ў галіне кніжнага рынку і прамоцыі літаратуры і аўтараў. Каб заваяваць у сучасны момант вядомасць, пісьменніку патрэбны грошы і шырокі круг сяброў. Гэта яны раскупяць ці разбяруць зборнік. Добры выдавец, у сваю чаргу, абавязаны прыдбаць добрых рэцэнзентаў, каб хоць не дай Бог яны не абшмаравалі паэта-пачаткоўца. А то яшчэ перастане пісаць...

Замест вучыцца дзеламу маркетынгу, я чамусьці думала пра фенамен Фрыдэрыха, паэта і мастака, народжанага ў Польшчы і прыжытага ў розных краінах Еўропы. Ён пайшоў за сусветнай модай і падумаў, каб зарабляць на тэмах, якія, як вядома, валяюцца проста на зямлі. Пад уплывам шумнай афёры ў Польшчы, якая кранала праблему гандлю адрасамі нябожчыкаў, якіх прадавалі медыкі фірмам рытуальных паслуг — гэта атрымала ў СМІ свой назоў „handel skórami” — Фрыдэрых напісаў і паставіў драму ў адным лодзінскім тэатры. Як натхнёны будыст дазволіў ён сабе на адкрытую антыклерыкальнасць. Спачатку яго пастаноўка прыцягнула ўвагу, а пасля ўсё нечакана згарэла. Гэта дзякуючы рэцэнзентам, якія палілі яго вадаспадам бруднай крытыкі:

— *Miałem 178 negatywnych recenzji!* — гаварыў той са спакоем душы і ўсмешкай на твары.

Добрая літаратура ідзе заўсёды *пад ручку* з матэматыкай. Тут таксама прамаўлялі голыя лічбы, таму разблытаць задачу я папрасіла ў Домны і Міры:

— А ці ведаеце вы можа такога літаратара, які застаўся ў жывых пасля 178 крытычных рэцэнзій?

— Не ведаем, — адказалі згодна.

* * *

Хоць на дварэ было ўжо пад поўнач, на вуліцах Лондана бушавала жыццё. У цёплым, ачышчаным бурай паветры, разносіўся далікатны пах нарцысаў. У вачах усё яшчэ стаяла бледна-зялёная зала, якая дзякуючы колеру атрымала ўзнёслы назоў: *sala seledynowa*. Паколькі ўсё адбывалася ў вілею Дня св. Патрыка, колер сцен і тэарэтычна-дзелавая гутарка пра літаратуру здаваліся гульнёй у сучасны тэатр, якой змест можна перадаць адным сказам: *Гаварыльня пра сучаснае мастацтва слова!*

Карацей кажучы, я яшчэ не была на такой паэтычнай сустрэчы, дзе цягам чатырох гадзін не прагучэў ні адзін верш...

Каб скінуць з душы стомленасць, адразу пасля сустрэчы ў Польскім доме, мы завіталі ў *Irish Pub*. Да гэтага заахвоціла кельцкая музыка, якая разам са здаровым смехам вылівалася проста на вуліцу праз адкрытыя наўсцяж дзверы паба. Там адразу запрасілі нас за асобны стол і прапанавалі зялёнае піва. Па-суседску гасцявала кампанія мужыкоў, з другога боку пры зялёным піве балявалі бацькі з падлеткамі...





У дзень св. Патрыка жыхары Вялікабрытаніі кажуць: сёння ўсе мы ірландцы. За словамі ідуць рытуалы і абрады. Трэба, напрыклад, выпіць шкляначку шатландскай самагонкі або куфаль зялёнага піва. Гэты абрад здзяйсняюць у памяць добрай перамены чалавечага характару. Традыцыю завёў сам св. Патрык, прыводзячы да маральнага парадку хітрую шынкарку. Жанчына налівала менш чым трэба самагонкі ў кубак. Ніхто не ўмеў адвучыць яе ад махлярства. Будучы святы, сам па паходжанні брыт, раней чым пайшоў з місіяй хрысціць кельтаў, вывучыў іх слабыя бакі характару. Вось, замест лаяць і адукаваць кабету, ён напалохаў яе пачварамі, зданямі і вампірамі: *Перастань ашукваць на гарэлцы, інакш яны прыйдуць да цябе ўначы!* Гэты метад спрацаваў на дзвесце працэнтаў. Хітрая жанчына стала шчодрай шынкаркай ды замест не даліваць, пачала пераліваць назначаную мерку.

Рытуальную шклянку шатландскай самагонкі, вядомай у свеце як віскі, выпіваюць у памяць добрай перамены чалавечага характару. Каб не сапсаваць радасці ад бяседы, кельты вераць яшчэ ў адзін цуд святога. Як вядома, дзень св. Патрыка выпадае ў Вялікі пост (18 сакавіка). Ірландцы, як кожны здаровы народ, не ўяўлялі свята без мяса. Тады, каб не грашыць, яны распаўсюдзілі добрую навіну пра тое, што ў гэты дзень сам св. Патрыкператварае мяса ў рыбу!

* * *

Пасля поўначы мы таксама перажылі метамарфоз. Дзесьці вывеяла стомленасць, пасвятлела ў галаве, усплыў гумар. Недарма св. Патрыка лічаць апекуном упаўшых на духу!

— Пайшлі танчыць! — разахвоціліся нашыя малодшыя сяброўкі: Домна і Анна-Марыя.

— Ідзіце, ідзіце, — выкруціліся мы з Міраю. — Мы паглядзім як танчаць маладыя...

Пад уплывам жывой кельцкай музыкі і песень, прасякнутых раслiннай магіяй і чарамі, прыемна было паразважаць пра падляшскія традыцыі, між іншым, пра лячэбныя павер'і, звязаныя з першым громам вясною. Па тым, з якога боку загрыміць, людзі гадалі надвор'е ў летнюю пару. Найбольш пажадана было пачуць грымату з поўдня. Гэты знак вяшчаў цеплынью і ўраджай. Першы гром скарыстоўвалі ў народнай медыцыне. Калі загрыміць, адразу трэба было ўпасці на спіну і пакачацца, каб такім спосабам на цэлы год пазбавіцца ад боляў у пазваночніку. Нашыя продкі мелі таксама рэцэпт на праяснение мазгоў. А на дэпрэсію пажадана было есці кожны дзень лыжку хрэну, выкапанага сваёй рукой з зямлі перад першым громам...

Праз момант мы ўявілі сябе як у час першага грому, падаем крыжам на памост у бледна-зялёнай залцы... Гэты рытуальны жэст, дарэчы, вельмі ўдала кампанаваўся з сюжэтам сустрэчы. На хаду мы маглі прагандляваць падляшскія аздараўленчыя павер'і і зарабіць мяшок фунтаў.

* * *

Нягледзячы на недаспаную ноч, раніцай у нядзельку мы рушылі пагглядзець Лондан. Энергія горада пранікала ў косці і душу, натхняла да дзеяння і жартаў. Нам нават не пашкодзіла начная вячэра, якую з'елі мы ў бары з фастфудамі. Страва, якую растанцаваным крокам прынёс да нашага стала смуглявы хлапец, хутчэй чым замоўленую ў СМІ каніну. Відаць, пераказваць і перажыць гэты неразгаданы кусок мяса дапамог нам святы Патрык...

*(працяг будзе)*



ISSN 0546-1960